PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 42 (1953) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 17 КАСТРЫЧНІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



## СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ПЕРАМАГЛА!

Некалькі тыдняў таму назад польскія сродкі інфармацыі паведамілі, што Урад Рэчыпаспалітай пастанавіў вярнуць Супрасльскую лаўру (*на здымку*) Праваслаўнай Царкве ў Польшчы. За гэты акт змагаліся, верылі ў яго здзяйсненне і чакалі на ажыццяўленне 75 гадоў — тры пакаленні праваслаўных беларусаў Беласточчыны, Польшчы, Беларусі і ўсіх краін свету, дзе б яны не жылі. Таму што Супрасльская лаўра была, ёсць і заўсёды будзе сімвалам жывучасці праваслаўнай беларускай духовай культуры.

Ужо пры заснаванні Супрасльскага манастыра выпала яму вялікая, гістарычнага значэння місія: паўставаў ён на самым паўночна-заходнім рубяжы Старабеларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) як яе бастыён, што паўстрымоўваў бы наступ каталіцтва і пратэстантызму, а разам з імі паланізацыйнай навалы. Гэта добра разумелі яго заснавальнікі: выдатныя дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы — маршалак Аляксандр Хадкевіч і ягоны зямляк і духовы настаяцель архіепіскап смаленскі Іосіф Солтан. Актыўна садзейнічалі паўстанню абіцелі вялікая княгіня Галена Іванаўна, дачка вялікага князя маскоўскага Івана Васілевіча і жонка вялікага князя літоўскага, а затым і караля польскага Аляксандра Ягелончыка, ды ваявода троцкі князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі і іншыя дзяржаўныя асобы. Першапачаткова заснаваны ў 1498 г. у Гарадку-на-Супраслі, а па двух гадах перанесены ва ўрочышча Сухі Груд ля ракі Супраслі на ўзмежку Блудаўскай і Крыноцкай пушчаў манастыр паспяхова развіваўся. Спрыяла яму тое, што заснавальнікі не толькі пільна дбалі пра маральную падтрымку і забяспечвалі яго быт шчодрымі ахвяраваннямі, але таксама паклапаціліся, каб зачын манаскай брацii склалі выхадцы з найважнейшых тагачасных асяродкаў праваслаўнай духовай культуры — Кіева-Пячэрскай лаўры і манастыроў св. Гары Афон у Грэцыі, а пад іх духовым кіраўніцтвам манаскі послух несла шматлікая брацiя з мясцовых праваслаўных. Істотнае значэнне мела і тое, што ўзначаліў абіцель ігумен Пафнуцій (Сегень), родам з Бельска, дальнабачны, дзелавы і добра знаёмы з абставінамі чалавек. Актыўная духовая, культурная і гаспадарчая дзейнасць новай абіцелі ўжо ў першыя гады яе існавання дала падставу Усяленскаму Першаіерарху Праваслаўнае Царквы, патрыярху канстанцінопальскаму Іаакіму прыслаць Аляксандру Хадкевічу благаслаўленную грамату на манастыр, даючую абіцелі адпаведныя кананічныя правы, а таксама падзяку за тое, што „... заснаваў гэтую славутую царкву (Свята-Благавешчанскую — М. Г.) вялікім сваім коштам і забяспечыў утрыманне манаскай брацii..."

І плён ахвярнага послуху брацii Супрасльскага манастыра не прымусіў доўга чакаць сябе. Яе набожнае жыццё і адданасць працы стала ўзорам як для манахаў іншых абіцеляў, так і для свецкіх людзей. Супрасльскі манастыр стаў асяродкам захавання і абароны чысціні праваслаўнай веры, важным цэнтрам стварэння духовай і нацыянальнай беларускай культуры і прадоўжання яе традыцый, прытулкам і месцам творчасці таленавітых будаўнікоў, іканапісцаў, вучоных, пісьменнікаў, мастакоў розных спецыяльнасцяў.

Першая царква св. Іаана Багаслова паўстала ўжо ў 1501 г., а ў 1504 г. мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Іона высвяціў краевугольны камень пад Свята-Благавешчанскую царкву. У 1510 г. яго наступнік, мітрапаліт Іосіф II (Солтан),

☞ *Працяг на стар. 5*



## МАСКОЎСКАЯ ДРАМА

Калі пішу гэтыя словы, у Маскве канчаецца страляніна, гарыць яшчэ будынак парламента Расіі, а лідэры антыельцынскай апазіцыі Руслан Хасбулатаў і Аляксандр Руцкой апынуліся ў арыштах. З усіх бакоў свету плывуць словы падтрымкі для прэзідэнта Ельцына, а радыястанцыі інфармуюць пра сотні забітых і раненых падчас барацьбы за ўладу ў цэнтры расейскай сталіцы. Тэлебачанне амаль безупынна паказвае кашмар гэтай абсурднай разні.

Магчыма, што калі гэты нумар „Нівы" з'явіцца ў продажы, сітуацыя ў Расіі зменіцца, высветляцца невядомыя факты, паявяцца новыя ацэнкі і каментары, але ўжо сёння можна сказаць, што дэмакратыя — гэта штосьці зусім чужое палітыкам і грамадствам гэтай часткі Еўропы. У краінах былога СССР не паўсталі ніякія механізмы змены ўлады парламенцка-дэмакратычным шляхам, не былі ім зацікаўлены палітыкі, выхаваныя ў структурах камуністычнага апарату. Ведалі яны адзін прынцып, адну логіку ўлады: той, хто выйгрывае — бярэ ўсё, з нікім не дзеліцца ўплывамі. Месцы ў структурах улады дзяліў пераможца, нягледзячы на тое, хто ім быў: цар ці першы сакратар партыі.

У апошнім часе ў Расіі стварылася ненармальная, як на традыцыю тае дзяржавы сітуацыя. Поўнай улады не меў прэзідэнт Ельцын, былы працаўнік камуністычнага апарату, ад двух гадоў аднак лідэр тае палітычнай плыні, якая ў рашучы спосаб імкнулася да зменаў у напрамку рынкачнай эканомікі і пабудовы дэмакратычных структураў кіравання. З гэтай плыні выйшлі два былыя блізкія супрацоўнікі Ельцына — Хасбулатаў і Руцкой, якім у барацьбе з прэзідэнтам за ўладу прыйшлося ўзначаліць рэакцыйны камуністычна-нацыяналістычны блок Расіі. Спалучала іх імкненне аднавіць савецкую імперыю, вярнуць уплывы старой партакратыі.

У дэмакратычных сістэмах за такім ці іншым варыянтам выказваецца грамадства падчас выбараў. У Расii гэтыя праблемы пачалі вырашаць традыцыйнымі тамашнімі метадамі. Прайграў гэту барацьбу не толькі лагер Хасбулатава і Руцкога, прайграў яе таксама і Ельцын, які застаўся на пасту прэзідэнта, дзякуючы арміі. Найбольшай аднак ахвярай гэтай вайны паміж палітыкамі — як заўсёды — ёсць народ. Сярод забітых і раненых большасць — гэта маладыя людзі, якія стралялі да сябе па загаду адурманеных прагай улады начальнікаў.

У сапраўднасці, адзінымі пераможцамі гэтай вайны ў цэнтры Масквы асталіся генералы расейскай арміі. Няма сумнення ў гэтым, дзякуючы каму прэзідэнт сёння яшчэ кіруе дзяржавай. Армія стала тым фактарам, які ў рашучы спосаб паўплываў на ўнутраную палітыку моцна хворай імперыі. Адначасова трэба памятаць, што яшчэ ніколі і нідзе армія не была стваральнікам дэмакратычнай сістэмы. Не верыцца мне, што ў Расіі можа быць інакш.

Пакуль што, аднак, урад Чарнамырдзіна абяцае, што ў снежні адбудуцца нармальныя дэмакратычныя выбары.

З пункту гледжання інтарэсаў Беларусі, прайгрыш наяўна імперскага блока дае шанц замацаваць незалежнасць і адпіхнуць ад улады антыдэмакратычнае кіраўніцтва дзяржавы, распусціць больш камуністычны, чым расейскі парламент і правесці дэмакратычныя выбары. Ці хтосьці выкарыстае гэты чарговы шанц, які гісторыя стварае беларусам?

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Iżewsk to stolica rosyjskiego przemysłu zbrojeniowego. Rzecz jasna, nie ma fabryki czołgów, karabinów czy samochodów pancernych. To kolejna radziecka specjalność. Czołgi składa się tutaj w fabryce snopowiązałek, rakiety w fabryce samochodów, armaty w zakładach wytwórczych maszyn dziewiarskich, karabiny produkują w fabrykach samowarów.*
*(Gazeta Wyborcza —Magazyn, nr 30)*

**Выглядае на тое, што мікрахвалевую духоўку, якую Сакрат Яновіч купіў на базары ў Крынках, зрабілі ў фабрыцы хімічнай зброі.**

* * *

*W tym roku doszło w polskiej praktyce ustawodawczej do wydarzenia bez precedensu. Władze rozpisały i ogłosiły projekt ustawy o dostawach publicznych (dotyczy usług prawnych). Wygrała go amerykańska firma i zainkasowała 50 tysięcy dolarów. W środowisku prawniczym zawrzało. W okresie międzywojennym jeden z polskich profesorów dorabiał pisaniem projektów konstytucji dla Ameryki Łacińskiej, a najstarszy uniwersytecki wydział prawa liczy sobie ponad 600 lat.*
*(Polityka, nr 39)*

**Абурэнне юрыстаў лічым беспадстаўным. „Дзядзька Сэм” з-за акіяна напіша нам канстытуцыю і будзем усе адчуваць сябе быццам жыхары Амерыкі, праўда, Лацінскай, але ўсё-такі Амерыкі. 50 тысяч долараў задатку і пэўна ж 500 тысяч за самую канстытуцыю — гэта для дзяржавы, такой як Польшча, не надта вялікая страта. Такія, напрыклад, нікому непатрэбныя пенсіянеры, настаўнікі ці беспрацоўныя невядома чаму дамагаюцца намнога большых выдаткаў з дзяржаўнага бюджэту. І вазьмі ім растлумач, што маюць яны шанц жыць як амерыканцы... на ўскраінах Рыо-дэ-Жанейра.**

* * *

*Marcin Gugulski, zwany przez niektórych „rzecznikiem tysiąclecia”, swój powyborczy komentarz zatytułował „Wybraliśmy Katyń”, co już zasługuje na nagrodę polskich psychiatrów. Natomiast przyczyn wybrania przez nas Katynia doszukał się w Biblii.*
*(Gazeta Współczesna, nr 191)*

* * *

*Dzieci w Polsce rodzi się coraz mniej. Umiera Polaków coraz więcej. (...) Obserwujemy też spadek liczby zawieranych małżeństw oraz spadek przyrostu naturalnego do nienotowanego jeszcze 3,2 promille. Zarazem, co jest fenomenem w skali europejskiej, skraca się nam średnia długość życia, Polak żyje przeciętnie 66 lat. (...) Polacy, w sumie biorąc cherleją. Stajemy się narodem coraz bardziej schorowanym, fizycznie niedołężnym, o nigdzie nie spotykanej liczbie inwalidów, narodem rozpitym i również rekordowo przeżartym nikotyną oraz zatruwanym przez środowisko.*
*(Polityka, nr 39)*

**І ўсё гэта дзеецца ў час далучэння Польшчы да Еўропы.**

* * *

*Przeszłość przestała być czynnikiem decydującym dla oceny ludzi i ugrupowań politycznych. Przynależność do PZPR i innych sił dawnego reżimu przestała kompromitować, „solidarnościowa” biografia przestała być atutem.*
*Bądźmy szczerzy: my, ludzie z „Solidarności”, sami zapracowaliśmy na to. Te nasze „wojny na górze”, przyspieszenia, lustracje i dekomunizacja musiały wywołać obrzydzenie...*
*(Gazeta Wyborcza, nr 225)*

* * *

*W jednym z raportów dowiadujemy się, że z powodu starań ludności białoruskiej utraciliśmy pas puszczy (Białowieskiej — red.) o szerokości 1,5 km, w obręb którego wchodzi najdroższa część puszczy, a więc Park Narodowy. Z raportów wynika, że ludność białoruska pasa przygranicznego nastawiona była do nowej Polski bardzo wrogo. Wnioski o przyłączenie do ZSRR prócz Białowieży złożyły również Kleszczele.*
*(Kurier Poranny, nr 185)*

**Такія менш-больш сенсацыі прадставіў Томаш Вісьнеўскі ў рубрыцы „Odkryj z „Porannym”. Спаслаўся ён пры гэтым на „на навуковыя” дасягненні Юры Зелянеўскага — гісторыка з Бельска. Гэтыя „зоркі” беластоцкай навукі шмат гадоў пісалі аб тым, як беларусы падтрымоўвалі Народную Польшчу, а цяпер — якімі яны былі яе ворагамі і здраднікамі.**
**Ужо ў верасні 1939 г. — паводле дакументаў, прадстаўленых гэтымі „навукоўцамі” — жыхары вёскі Такары абяззброілі польскую армію, а пасля пайшлі служыць у гестапа. Кожныя пару гадоў на старонкі беластоцкага друку вяртаецца сіндром Казіка Семяняні.**

* * *

*Pracownik naukowy jednej z krakowskich uczelni zabił i poćwiartował swoją żonę. Ciało zapakował do reklamówek. Jedną z reklamówek wrzucił do Wisły.*
*(Gazeta Współczesna, nr 189)*

**Кашмар, тым не менш жадаем прыемнага адпачынку пры чытанні газет і часопісаў.**

## З мінулага тыдня

**Польскія ўлады вельмі асцярожна аднесліся да крызісу ў Маскве.** Міністр замежных спраў **Кшыштаф Скубішэўскі** заявіў, што „Польшча падтрымоўвае эканамічныя рэформы ў Расеі, а гэта абазначае, што падтрымоўвае Ельцына”. У Міністэрстве нацыянальнай абароны створана спецыяльная камісія для аналізу здарэнняў у Маскве. Бюро нацыянальнай бяспечнасці пры Канцылярыі Прэзідэнта РП выдала заяву, у якой напамінае, што „Польшча шукае гарантый сваёй бяспечнасці і бяспечнасці для ўсяго рэгіёна Усходняй Еўропы шляхам спалучэння нашай краіны з Арганізацыяй Паўночнаатлантычнага дагавору”.

**Здарэнні ў Маскве** маюць свае паслядоўнасці не толькі для Расейскай Федэрацыі — сказаў падчас прэс-канферэнцыі пасол Рэспублікі Беларусь у Варшаве **Уладзімір Сянько.** Як старшыня Вярхоўнага Савета РБ **Станіслаў Шушкевіч,** так і ўрад у Менску падтрымалі **Барыса Ельцына** і „курс дэмакратычных рэформаў і пераўтварэнняў, якія праводзіць урад Расеі”. Былі аднак і ў Беларусі сілы, якія, жадаючы поспехаў **Руслану Хасбулатаву** і **Аляксандру Руцкому,** актыўна падтрымалі праціўнікаў Ельцына. Уладзімір Сянько паінфармаваў, што для будучыні Беларусі важнае значэнне будзе мець бліжэйшая сесія парламента, якая пачнецца 9 лістапада г.г. Прадугледжваецца на ёй, між іншым, правядзенне прац над новай канстытуцыяй. Магчымы таксама роспуск парламента і абвяшчэнне датэрміновых выбараў.

29 кастрычніка **Генеральная Асамблея ААН** выбярэ пяць непастаянных членаў Савета Бяспекі. Месца ў гэтым органе практычна маюць ужо гарантаваныя: Аргенціна, Руанда і Аман. Па адным месцы адведзена прадстаўніку Афрыкі (стараюцца Нігерыя і Гвінея-Бісау) і Усходняй Еропы, на якое прэтэндуюць **Беларусь** і Чэхія.

Палякі — грамадзяне Беларусі — стварылі сваю партыю — **Польскае дэмакратычнае аб’яднанне** (Polskie Zjednoczenie Demokratyczne). Ва ўстаноўчым з’ездзе ў Менску прыняло ўдзел 135 дэлегатаў. У статуце запісана, што Аб’яднанне — партыя парламенцкага тыпу, „адкрытая для ўсіх грамадзян Беларусі”, (...) якая выказваецца за тэрытарыяльную цэласнасць беларускай дзяржавы. „Хочам уплываць на кшталт улады, а толькі палітычная партыя можа ўчыніць з палякаў суб’ект, а не аб’ект палітыкі” — сказаў член ініцыятыўнай групы **Чэслаў Бяньkoўскі.** Падкрэсліў ён таксама, што паланійныя арганізацыі не здабылі для палякаў у Беларусі (якіх там афіцыйна 400 тысяч) нават ніводнага месца ні ў парламенце, ні ў самаўрадавых уладах.

Паводле **Генрыка Кроля,** пасла і старшыні **Грамадска-культурнага таварыства немцаў** на Апольскім Шлёнску, у Літве лепш трактуюць палякаў, чым немцаў у Польшчы. У інтэрв’ю для ПАП аб паляках з Літвы сказаў ён так: „Не мелі яны, напрыклад, праблемаў з меншасным школьніцтвам. У нас з боку куратарыі асветы не бачым ніякай волі дапамагчы нам у арганізаванні такіх жа школ. (...) У Літве ў дадатак вядуцца інтэнсіўныя працы над законам аб меншасцях, а ў нас гэтая тэма мае яшчэ больш праціўнікаў, чым прыхільнікаў”.

**У Музеі незалежнасці ў Варшаве адкрылася выстаўка беларускай мастацкай фатаграфіі** па ініцыятыве таварыства „Памост”. Гэта першая ў Польшчы экспазіцыя прац мастакоў-фатографаў: **Юрыя Елізаровіча, Сяргея Кажамякіна, Уладзіміра Парфянка** (з творчага аб’яднання „Студыя-3”), **Віктара Заранкова, Ігара Саўчанкі** („Панарама”) і **Аляксандра Угляніцы** („Мэта”).

**У Бельведэры прэзідэнт РП Лех Валэнса** ўручыў 36 навукоўцам прафесарскія званні. У ліку новапрызначаных прафесараў апынуўся дырэктар Інстытута грамадскіх навук Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку **Андрэй Садоўскі.** Праф. д-р габ. А. Садоўскі — вядомы ў нашым рэгіёне сацыёлаг, даследчык, між іншым, сацыялагічных з’яў па польска-беларускім памежжы, аўтар шматлікіх прац у гэтай галіне. Віншуем!

У лістападзе г.г. на польска-беларускай граніцы будзе адкрыты **кантрольна-прапускны пункт Палоўцы — Пяшчатка.** КПП будуць карыстацца толькі грамадзяне Польшчы і Беларусі, а пашпартна-мытны кантроль праводзіцца будзе на беларускім баку.

15 верасня г.г. супраць **Сяргея Мартынюка і яго суполкі „Пронар” у Нарве** было ўзбуджана следства. Падазронаму ставіцца закід фальшавання дакументаў у 1991-1993 гадах. Пад наглядам пракуратуры следства вядзе беластоцкая дэлегатура УОП.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Амаль усё пра Нараўскую гміну.
- Ці гродзенскі ваявода Арцыменя загінуў за народную справу.
- Чалавек — горшы, чым жывёла.
- Вучні бельскай "тройкі" пераможцамі ў агульнапольскіх конкурсах.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### У РАСЕІ ЗДАРАЕЦЦА -- НА БЕЛАРУСІ АДГУКАЕЦЦА

Аб сваёй падтрымцы курсу дэмакратычных рэформаў і пераўтварэнняў, якія праводзіць урад Расеі, заявіў беларускі ўрад. Парламент рэспублікі сваю пазіцыю па гэтым пытанні выказваць не спяшаецца.

На думку старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, учынкі прэзідэнта Ельцына -- зваротная рэакцыя на бандыцкія захады, распачатыя другім бокам. У той жа час, агаворваючыся, праўда, што трэба быць пільнымі, каб не дапусціць антыканстытуцыйныя нелігітымныя захады, ён лічыць, што было б недэмакратычным забараніць збірацца ў Менску тым арганізацыям, якія сталі лідэрамі маскоўскіх падзей. Як бачна, нават у звышнапружанай сітуацыі, спікер беларускага парламента прытрымліваецца, як звычайна, шляху кампрамісу.

Надзвычай катэгарычна выказаўся на гэты конт лідэр БНФ Зянон Пазьняк, які перакананы, што ў прававвой дзяржаве не павінны дзейнічаць камуністычныя арганізацыі. Ён настойвае на прыпыненні дзейнасці ў Беларусі Партыі камуністаў Беларусі, КПСС, Славянскага сабору "Белая Русь", Саюза афіцэраў, якія непасрэдна прымалі ўдзел у падрыхтоўцы мяцяжу ў Маскве. Прапаноўваючы ўвесці часовы рэжым, прыняць іншыя неабходныя меры, каб не дапусціць пранікнення неакамуністычнага бандытызму на Беларусь, Зянон Пазьняк падкрэсліў: "Мы павінны быць шчаслівымі, што ў нас ёсць незалежнасць і мы не з’яўляемся часткай гэтай страшэннай імперыі".

Сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларусі Віктар Чыкін палічыў занадта складаным для сябе даваць ацэнку падзеям у Маскве, бо не верыць ніводнаму слову, якое гучыць па радыё і тэлебачанні. Затое, не зважаючы на лаяльнасць старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі да камуністычных арганізацый, лідэр адной з буйнейшых з іх упэўнены ў неабходнасці найхутчэйшай адстаўкі Станіслава Шушкевіча, які падтрымаў антыканстытуцыйны пераварот у Расеі.

### І РОДНЫ КУТ УЖО НЕ МІЛЫ

Амаль незаўважаным стаў сёння паток у беларускую армію беларусаў з армій іншых краін СНД. Калі яшчэ год назад ва ўпраўленне кадраў Міністэрства абароны штодзень з просьбамі аб пераводзе ў беларускія войскі звярталася каля 50 чалавек, то цяпер усяго 1-2 чалавекі. Аб’ектыўнай перашкодай для вяртання афіцэраў-беларусаў на радзіму з’яўляецца слабая ўкамплектаванасць афіцэрскімі кадрамі ў некаторых дзяржавах СНД, суб’ектыўнай -- нізкая зарплата беларускіх ваеннаслужачых у параўнанні з іх калегамі ў іншых краінах Садружнасці.

### МІРНЫ АТАМ ЗНОЎ БЛУКАЕ

Энергакрызіс, які ахапіў Беларусь, падштурхнуў кожную вобласць шукаць уласныя шляхі для забеспячэння сябе электраэнергіяй. Дэлегацыя Магілёўшчыны ўжо правяла адпаведныя перамовы з кіраўніцтвам Смаленскай вобласці Расеі аб пастаўцы энергіі са Смаленскай АЭС. Калі Гомельшчына будзе "сілкавацца" ад Чарнобыля, Брэстчына звернецца за дапамогай да Ровенскай АЭС, Віцебшчына заключыць дамоўленасць з Ігналінскай -- такая тэндэнцыя да "суверэнізацыі" электраэнергіі паслужыць аднаму з галоўных довадаў для будаўніцтва АЭС на і без таго атручанай Чарнобылем беларускай зямлі, бо без энергіі застанецца буйнейшая прамысловая зона Менскай вобласці, якая не мае прамых выхадаў на далёкае і блізкае замежжа.

### ЗАРАБІЎ НА МАЦІ

Не так даўно ў Дзяржынску, што пад Менскам, быў украдзены гімназіст-дзевяцікласнік. Забітая горам маці перадала вымагальнікам тры тысячы долараў, а ў хуткім часе высветлілася, што злодзеем аказаўся сам "выкрадзены", падбіўшы на цёмную справу сябра -- кухара духоўнай семінарыі.

### ПРАДПРЫМАЛЬНІКУ -- ДЭПУТАТАВА?

У крызіснай сітуацыі, якая склалася ў эканоміцы рэспублікі, Беларускі саюз прадпрымальнікаў і арандатараў /БСПіА/ лічыць адзіным спосабам вырашэння праблем -- датэрміновы роспуск парламента і правядзенне новых выбараў. Прапаноўваючы ажыццяўляць фінансаванне выбарчай кампаніі не толькі за кошт сродкаў дзяржаўных і мясцовых бюджэтаў, але і за сродкі палітычных партый, грамадскіх арганізацый і прыватных асоб, БСПіА, безумоўна, разлічвае прыняць актыўны ўдзел у гэтай кампаніі.

### ПІЦЕ, ДЗЕЦІ, МАЛАКО

Як гэта ні парадаксальна, але здароўе беларускіх дзяцей з 1 кастрычніка ў пэўнай ступені залежыць ад колькасці гарэлкі, выпітай іх бацькамі. Павышэнне цэнаў на гэты моцны напітак стала крыніцай для датавання дзяржавай выдаткаў на вытворчасць малака і малочнакіслай прадукцыі: цэны на смятану, малако, кефір, тварог застануцца ранейшымі. Ёсць, праўда, няўпэўненасць у тым, ці хопіць у бацькоў грошай, каб і сябе не пакрыўдзіць, і дзеткам па меры сіл дапамагчы.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ЯБЛЫЧНАЯ ДЫЛЕМА

Недзе ў жніўні ў маёй хаце раззваніўся тэлефон (зазвычай, трэба сказаць, даволі спакойны). Званілі: мой дзядзька, даччына сяброўка, мужава супрацоўніца, швагер, пляменніца, мужаў дваюрадны брат, ды яшчэ два сваякі з вёскі.

Па сутнасці ўсе тэлефаналі ў адной справе: прыедзьце, вазьміце яблыкаў! — прасілі.

Дзядзька, заўважыла я, абразіўся на мяне, бо ў яго папяроўкі засыпалі ўсю дзялку, а есці няма каму, ды і джэмаў няма патрэбы рабіць, бо ў цёткі цукрыца, а дзядзька больш на скварку налягае.

Шкада, што абразіўся, але што ж мне было рабіць, калі якраз уся кухня была завалена папяроўкамі, прывезенымі мужавай супрацоўніцай.

Даччына сяброўка так ужо націскала, так пераконвала, што прывязе хоць адно вядро папяровак, каб „пахрупаць сабе". Ой, коцік, дзякую, кажу, ужо маю. Яна таксама абразілася.

Тады, не пытаючыся, паднесла пару сумак яблыкаў мужава пляменніца. Ну, добра, іншы гатунак, няхай сабе. Дачка мусіла ўзяць ад свякрухі, бо ж гэта — „свае". Ад швагра з Каралёвага Моста ўзялі: бо ж гэта антонаўка. Ды і як гэта — быць і не ўзяць?!

Ізноў падкінула яблыкаў мужава супрацоўніца: чырвоныя, прыгожыя. Доўга, бедная, намаўляла мяне па тэлефоне, што добрыя яблычкі, што рукамі здымалі, што можна сушыць іх і надта смачныя. Дваюрадны брат мужа, прыехаўшы з Бельска ў Беласток, забег, пакінуў сумку яблыкаў: на „цяпер", каб есці. З Храбалоў пазваніў сваяк: ратуйце, прыедзьце па антонаўкі, ужо за яблыкамі не прайсці!

Паехалі мы на вёску. Яблыні спусцілі свае цяжарныя галіны, поўныя яблыкаў, аж да зямлі, паклалі іх на платы, звесілі аж на вуліцу. Ніхто на іх не спакушаецца, нават не гляне. У кожнага ёсць свае. Калі хто гляне — вядома, што прыезджы, бо любуецца гэткім хараством.

Тутэйшыя людзі не маюць часу прыглядацца гэтай прыгажосці. Працы ў іх цяпер шмат, яшчэ і бульба не ўсюды выкапана. Яны б ахвотна і яблычкі сабралі, якімі ўсё ўсыпана пад яблынькамі, ды завезлі на скуп. Было б і сабе крыху граша, і людзям карысць. Але што ж, калі плацяць па 750 злотых усяго. Нават на паліва, каб даехаць да скупу, не хопіць, наракае сваяк.

Дык ляжаць сабе пацiху тыя яблычкі ды гніюць. Што кароўкі з'елі — тое іх. Але і ім ужо тыя яблычкі абрыдлі. Топчуць яблыкі людзі і жывёла.

А шкада! Прыдзе зіма, дык з якой ахвотай выпіў бы чалавек соку. Вунь у суседзяў — навошта нам Амерыка! — на Беларусі хацяб колькі соку! У большых крамах усюды можна падысці да спецыяльнага аддзела з сокамі, і прадаўшчыца адкруне і наліе табе колькі хочаш шклянак ды якога хочаш соку.

А наша прамысловасць не мае „пераробчай моцы". Толькі адну дзесятую сабраных фруктаў і гародніны яна ў стане перапрацаваць, ды і тое найбольш дзякуючы „Гортэксу", бо большасць перапрацоўваючых садавіну і гароднiну прадпрыемстваў „ляжыць".

Шкада.

**АДА ЧАЧУГА**

P.S. З вёскі яблыкаў ужо не бралі, хаця прапанавалі і сваякі, і знаёмыя. Пэўна, я разумею, што шкада, каб яблычкі марнаваліся, але нашто ж я іх буду цягаць, калі і ў нас бракуе „пераробчай моцы". У маёй хаце і так ужо пахне яблыкамі, як у нейкім цудоўным садзе.

І з апошняй хвіліны: пазваніў муж, каб пад'ехаць да яго на працу па... яблыкі. Іншая ўжо супрацоўніца прывезла: як гэта, ад іншых прабавалі, а ад мяне нават спрабаваць не хочаце, пакрыўдзілася...

**А.Ч.**

*ВІКТАР ШВЕД*

**БЕЛАСТОК**

Беласток, родны наш Беласток, —
Вырас ты на палосках, у жыце,
Дзе радзімы цвяток-васілёк
Пpaглядаецца ў неба блакіце.

Сімвалічны твой герб, Беласток,
Арол побач крывіцкай Пагоні.
Гэта ў наша мінулае крок,
Спалучае ён нас і сягоння.

Прыгажэеш штогод, Беласток,
Незвычайнай сваёй панарамай.
Тут касцёлы віднеюць здалёк,
Нашых купалы цэркваў таксама.

Цешыш сэрца і цешыш наш зрок
Ты, малое айчыны сталіца.
Беласток, родны наш Беласток,
Заўжды будзем табой ганарыцца.

**Я ЖЫВУ НА ДЗЕСЯЦІНАХ**

Тужыў па родных я мясцінах,
Калі знаходзіўся ў сталіцы.
На сімвалічных Дзесяцінах
Пашчасціла мне пасяліцца.

Хоць не жыву я на палосках,
Аднак у родным Беластоку
І землякоў сардэчных з вёскі
Я сустракаю тут навокал.

Магу я з імі падзяліцца
Айчынным словам, быццам хлебам,
Напіцца з роднае крыніцы,
Карэнне запусціць у глебу.

І тут ужо з каханай жонкай
Па-беларуску мы гаворым.
Тут наша кроўная старонка,
Рукой падаць у вёску Мора.

# КРАДУЦЬ НЕ ТОЛЬКІ Ў ГОРАДЗЕ

Мікалай Купчук з Ляхоў мае кавалак лугу на кленіцкім хутары. Пасвіў там сваю жывёлу. Аднаго вераснёўскага дня маці Мікалая з'ездзіла туды паглядзець за жывёлай і заўважыла, што няма двух бычкоў.

— Сын, — расказвала маці, — быў якраз у Бельску. На полі з'явіўся толькі пасля абеду. Гэтага дня і яшчэ наступнага да абеду шукалі мы бычкоў, бо не маглі паверыць, што хтось іх забраў.

— Другога дня, — сказаў Мікалай, — кінулі мы ўсялякія пошукі. Абхадзіў я ўсе месцы, дзе была вытаптаная трава і знайшоў дзіркі, у якіх раней тарчалі палі. Стала ясным, што бычкі не пазрываліся, а хтосьці іх забраў.

Маці Мікалая зайшла да кленіцкага солтыса.

— Нейкае падазрэнне тут ёсць, — сказаў той, — бо быў у мяне адзін чалавек і браў „радавод" для трох бычкоў у Чыжы, але ж павёз іх у Бельск.

Чалавекам гэтым аказаўся сусед па полі Мікалая Купчука — Ян А. Да яго і заехала маці Мікалая з пытаннем: „Куды ты здаваў бычкі?" „У Чыжы", — адказаў той. „А распіску маеш?" „Маю". Жонка Яна А. была якраз у агародзе і не пацікавілася нават, чаго на панадворак зайшла чужая жанчына. Вярнуўшыся дадому, маці Мікалая дайшла да вываду, што Ян А. нешта круціць — кажа, што ездзіў у Чыжы, а быў у Бельску. Стала распытваць людзей, якія былі ў Чыжах гэтага дня, калі бачылі, каб Ян А. здаваў свае бычкі. Ніхто яго там не бачыў. Заехала яшчэ раз да Яна А. — выявілася, што вазіў жывёлу ўсё-ткі ў Бельск, бо „меў знаёмствы ў тамашняй бойні". Затым яна адведала з сынам бельскую бойню — кіраўнік паказаў ім „радавод" жывёлы: ён быў перапраўлены з Чыжоў на Бельск. Пасля гэтага Мікалай Купчук прадставіў сваю справу нараўскай паліцыі, якая гэтага ж самага дня з'явілася ў Ляхах, затым паехала ў Кленікі і стала допытваць Яна А.

— Я сам гэтых бычкоў не вазіў, ездзіў са мною яшчэ адзін чалавек з Кленік.

— Так, вазілі, — адказаў той другі, калі сталі і яго дапытваць, — два дні мы дамаўляліся, каб з'ездзіць у Бельск, памяняць акумулятары ў трактарах і пры нагодзе здаць бычкі.

— А ці была ў аднаго бычка такая адметная белая пляма на галаве? — запытаў Купчук.

— Была.

Мікалай Купчук паехаў яшчэ раз у Бельск, дзе ў бойні адшукаў скуры па бычках. Бракавала скур з галоў, але якраз з'явіўся ў бойні чалавек з Беластока, які забіраў адтуль скуры. Купчук запытаў яго пра адну такую адметную штуку. Той згадзіўся, што ў апошні час такая скура яму трапілася. Паехалі разам у Беласток і адшукалі тую скуру. Купчук прывёз скуру ў Бельск і ў прысутнасці мясцовай паліцыі яе дапасавалі да рэшты. Быў зроблены пратакол, фатаграфіі і ўсе разышліся. Паліцыя ў часе доследу выявіла на скурах іголачкі ядлоўца, а значыць, перад тым, як прывезлі іх у бойню, зладзеі трымалі жывёлу ў лесе. Маці Купчука адшукала тое месца, падказалі ёй людзі. Паехала з гэтым у Нарву.

— Не паедзем туды, сказалі мне. Вы рэнцістка, якое ў вас права займацца гэтай справай. Мяне гэта вельмі закранула, — расказвала маці Купчука, — бо хто ж мае гэтым займацца, калі ў сына сям'я і гаспадарка на галаве. Тады паехала я ў Гайнаўку і, відаць, Гайнаўка пачала ціснуць на Нарву, бо прыехаў паліцыянт, зрабіў пратакол і фатаграфіі, але справу так і не дакончыў. Паехала я яшчэ раз у Гайнаўку, у пракуратуру.

З пракуратуры прыехаў следчы ды павёў справу на свой лад. Абодва, Ян А. і яго сябар, прызналіся — расказалі ўсё як было. Паліцыя спачатку іх арыштавала, але праз два дні адпусціла.

— Будзе які суд над імі, — задумоўваюцца Купчукі, — ці можа ў гэтай краіне можна забіраць чужую маёмасць, як сваю?

**(алм)**

# ВАРТА ВЕДАЦЬ, ШТО...

... на Беласточчыне было некалькі дзесяткаў ганчарскіх асяродкаў, якія мелі традыцыі цэхавага або вясковага ганчарства. Велічыня ганчарскіх асяродкаў была розная. У Кляшчэлях да 1914 года асяродак меў уласны цэх і гуртаваў каля 30 ганчароў. Таксама ў Сямяцічах існаваў ганчарскі цэх, у якім было трыццаць ганчароў. У іншых асяродках, такіх як: Букштэль (гміна Чорная-Беластоцкая), Лука (Нараўчанская гміна), Мельнік, Мілейчыцы, Супрасль, Сушча (Міхалоўская гміна) працавала ад 3 да 10 ганчароў. Былі таксама такія малыя асяродкі, як: Бронка (Бранская гміна), Храбалы (гміна Дабжынева), Грынявічы-Вялікія (гміна Бельск-Падляшскі), Якубоўскія (Боцькаўская гміна), Карчміска (гміна Чорная-Беластоцкая), Крынкі, Міхалова, Ахрымы (Нараўчанская гміна), Плюцічы (гміна Бельск-Падляшскі), Сасіны (Боцькаўская гміна) і Зубры (Гарадоцкая гміна), у якіх выраблялі посуд на патрэбы жыхароў навакольных вёсак.

**(ця)**

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### НАРАЎЧАНСКІ АСЯРОДАК КУЛЬТУРЫ

9 кастрычніка г.г. у Нараўцы здалі ў карыстанне новапабудаваны Гмінны асяродак культуры. У ім ёсць кіно і танцавальная зала, а таксама фоталабараторыя, майстэрні для рысавальшчыкаў і скульптараў. У ГОК будзе перанесена Гмінная публічная бібліятэка, якая мае 11 тысяч тамоў, у тым ліку і некалькі соцень беларускіх кніжак. У Нараўцы бібліятэку наведвае больш тысячы чытачоў.

У гэтым годзе ў Нараўчанскай гміне паклалі паўтаракіламетровае асфальтавае палатно на дарозе з Нараўкі ў Масева і зараз з Нараўкі ў Альхоўку ўсе ездзяць па асфальце. У плане прадугледжана пакласці асфальт на рухлівым двухкіламетровым адрэзку дарогі са Старога Ляўкова ў Ляшукі (на ПКСаўскім маршруце Гайнаўка — Беласток цераз Сушчу).

Варта адзначыць, што сёлета ў Нараўцы пачалі будаваць школу і спартыўную залу па вуліцы Новай (побач кааператыўнага жыллёвага пасёлка). У школе будзе шаснаццаць класных залаў. Пад пабудову адведзена трохгектарную плошчу на грунтах ПФЗ. Праект школы цікавы і даволі арыгінальны. Аб'ект не будзе мець казарменнага характару, але будзе больш функцыянальны і намнога прыгажэйшы, чымсьці раней праектаваныя будынкі.

### ПА АДНОЙ ДАРОЗЕ...

Не ўсюды належна дбаюць пра невялічкія пачакальні-дашкі на аўтобусных прыпынках ПКС. Вось што можна ўбачыць па дарозе з Беластока ў Ялоўку. Зараз за горадам на прыпынку ў Грабоўцы ў тамашняй, некалі вельмі прыгожай пачакальні, ушчэнт пабілі шыферны дах. Ніхто яго не берамантуе ад двух гадоў.

А вось на гэтым жа шляху, ужо на тэрыторыі Міхалоўскай гміны, тут усё прыгожа, акуратна. Між іншым, пачынаючы ад Міхалова і ажно да дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь гмінныя ўлады задбалі пра пачакальні. У Міхалове пабудавалі яшчэ адну. Першая была глыбей схаваная ў скверык і можа далекавата было да яе. Затым адрамантавалі і прыгожа памалявалі пачакальні ў Новай Волі, у „Імшары", Баршчэве, Юшкавым Грудзе ды на іншых прыпынках. Будзе дзе схавацца ад дажджу або снегу, а таксама ад халоднага ўжо, восеньскага ветру.

### ДУБІЦКАЯ СТАТЫСТЫКА

Дубіцкая гміна займае плошчу ў 15 тысяч гектараў. У ёй — трыццаць вёсак, у тым ліку семнаццаць салэцкіх. Да найбольшых належаць: Грабавец (вёска налічвае 429 чалавек), Дубічы-Царкоўныя (273), Ягаднікі (220), Стары Корнін (213) і Тафілаўцы (207). У гміне Дубічы-Царкоўныя пражывае 2634 чалавекі.

Дзесяць год таму ў гэтай гміне пражывала 3010 чалавек. Найбольшая вёска — Грабавец тады налічваў 529 чалавек. Зараз тут на 100 жыхароў менш. Вёска Тафілаўцы была на трэцім месцы, а цяпер — на пятым. У згаданых пяці вялікіх вёсках колькасць жыхароў значна паменшылася.

Найстарэйшай жыхаркай гміны з'яўляецца 109-гадовая Дамініка Вілюк (яна нарадзілася 14.X.1884 г.) з вёскі Вілюкі.

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

# БОСНІЯ ЯКОЙ УЖО НЯМА

**Тузла знаходзілася тады ў рэспубліцы Босніі і Герцагавіны. Граніцы рэспублікі ўстанавіў Ціта па-свойму, таксама як Сталін — без рэферэндуму. І таму ў Босніі і Герцагавіне было 39,6 працэнта мусульман, 37,2 працэнта сербаў і 20,6 працэнта харватаў. На электрастанцыі ў Тузлі працавалі таксама мясцовыя баснійцы, якіх і тутэйшыя, і прыезджыя сербы ды харваты называлі басанцамі. За ўвесь час я не адчуў паміж імі ніякай варожасці ні ў нацыянальных, ні ў рэлігійных справах.**

### ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ З ТУЗЛАЙ

Хачу я падзяліцца з чытачамі „Нівы" сваімі заўвагамі з маёй шасцімесячнай пабыўкі ў Тузлі ў канцы 1973 і на пачатку 1974 гадоў. У сувязі з мантажом у Тузлі двух польскіх генератараў і катлоў моцай у 200 тысяч квт з поўным аснашчэннем у аўтаматыку, пульты кіравання, рэлейнае забеспячэнне, на тамашняй электрастанцыі працавалі дзесяткі польскіх спецыялістаў. У канцы мантажу другога блока выслалі мяне ў Тузлу для нагляду за рэалізацыяй праектаў, якія таксама былі апрацаваны ў Польшчы ў „Энергапраекце". Я паехаў туды падмяніць аднаго інжынера, які папаў у канфлікт з мясцовым тэхнічным персаналам. Самалётам далецеў я ў Бялград, пераначаваў адну ноч у гасцініцы „Славія", а на другі дзень купіў білет на аўтобус і паехаў ім амаль 200 км у Тузлу. Было гэта ў снежні і калі даехаў да аўтобуснага вакзала, у Тузлі была ўжо ноч. Таксі давязло мяне ў гасцініцу „Брысталь", дзе мяне ўжо чакаў аднаасабовы пакой з усімі выгодамі на другім паверсе. Я яшчэ слаба ведаў сербахарвацкую мову, хаця раней ужо чатыры разы службова і прыватна быў у Югаславіі. Аднак неяк дагаварыцца ўжо мог. Сербахарвацкая мова — славянская і, калі хто ведае польскую і рускую мовы, а тым больш беларускую і ўкраінскую, то можа дагаварыцца з усімі сербамі і харватамі. Горад Тузла — невялікі. Было ў ім тады 60 тысяч жыхароў, і някепска развітыя металургічная і хімічная прамысловасці. З зямлі здабывалі каменную соль і буры вугаль, які выкарыстоўваўся ў электрастанцыі.

Многія польскія спецыялісты жылі тут з сем'ямі на прыватных кватэрах, дзеці іх вучыліся ў сербскіх школах. Мне выгадней было жыць у гасцініцы, бо там было больш свабоды і акрамя таго давалі бясплатнае снеданне. На электрастанцыі працавалі мясцовыя баснійцы, якіх і тутэйшыя, і прыезджыя сербы і харваты называлі басанцамі. За ўвесь час я не адчуў паміж імі ніякай варожасці ні ў нацыянальных, ні рэлігійных справах. Калі былі праваслаўныя Каляды ці праваслаўны Вялікдзень, тады сербы прыходзілі да свайго кіраўніка і гаварылі: „Дапас е Божычь (Ускрс) і мы нэ радымо" (Сёння — Каляды (Вялікдзень) і мы не працуем). І хоць Каляды і Вялікдзень не былі днямі вольнымі ад працы, сербы іх святкавалі. Харваты таксама святкавалі каталіцкія святы. 1 і 2 студзеня было дзяржаўнае свята т. зв. Нова годына. Спатканне Новага года мы правялі ў рэстаране пры сербскіх танцах і музыцы, а на ўсіх сталах былі печаныя парасяты, каньякі і віно. Не спаткаў я аднак выпадку, каб басанцы не працавалі ў час магаметанскіх святаў. Сярод іх было больш атэістаў і камуністаў, чым між сербамі ці харватамі.

### БАСНІЙСКАЕ МІНУЛАЕ

Тузла знаходзіцца ў рэспубліцы Босніі і Герцагавіны. Граніцы Рэспублікі ўстанавіў Ціта па-свойму, таксама як Сталін — без рэферэндуму. І таму ў Босніі і Герцагавіне было 39,6% мусульман, 37,2% сербаў і 20,6% харватаў. Ёсць там цэлыя раёны, дзе жывуць толькі сербы.

У 1463 г. туркі падбілі Боснію, а ў 1482 годзе — Герцагавіну. Туркі накладалі на праваслаўных і католікаў вялікія падаткі, і таму баснійскія феадалы (бегі), каб не страціць сваіх прывілеяў прынялі іслам і прымушалі зрабіць тое самае сваіх сялян. Аднак не ўсе праваслаўныя сяляне прынялі іслам. Яны бунтаваліся супраць туркаў, арганізавалі паўстанні, з якімі туркі вельмі жорстка распраўляліся. Пасля турэцкай расправы над паўстаннем 1876 г. Расія аб'явіла Турцыі вайну (1877/78 гады). Берлінскі кангрэс прызнаў Аўстра-Венгрыі акупіраваць Боснію і Герцагавіну, але басанцам далі мажлівасць самакіравання. І толькі ў 1908 г. Аўстра-Венгрыя далучыла Боснію і Герцагавіну да манархіі, што давяло ў 1914 г. да І-ай сусветнай вайны (забойства эрцгерцага Франца Фердынанда ў Сараеве).

Мусульманскія прывычкі ў басанцаў асталіся да 1975 г. Там у аўтобусе жанчыны часта ўступаюць месца мужчынам, і то маладым! Жанчыны былі вельмі ветлівыя. Мне рэдка ўдавалася



першаму сказаць „Добро ютро" ці „добар дан" (добры ранак ці добры дзень), калі я ўваходзіў у магазін, у якім працавалі жанчыны. У магазінах тады ў Югаславіі было поўна тавараў і прадаўшчыцы дбалі пра кліента. У рэстаране нельга было падысці да чужога стала і папрасіць нават знаёмую жанчыну да танца, бо магло дайсці да бойкі. Замужнія мусульманскія жанчыны брылі свае палавыя органы. Яны гэтага не скрывалі і не саромеліся, калі аб гэтым гаварылі. Басанец заўсёды ішоў метры два перад сваёй жонкай, ніколі разам. Сярод інтэлігенцыі ўжо гэта занікала, але сярод рабочых і сялян было гэта відаць на вуліцы. Нават праваслаўныя ці каталіцкія басанцы прытрымліваліся гэтага звычаю. У рэстаране гасцініцы „Брысталь", дзе я часта вячэраў мала было пар, пераважна сядзелі і пілі толькі адны мужчыны. Пілі нямнога. За 6 месяцаў я спаткаў толькі адзін раз п'янага мужчыну і я не ўпэўнены, ці гэта быў басанец. Спаткаў толькі час ад часу п'яных палякаў, якіх ведаў з працы. Прастытутак таксама не спаткаў. Самі жанчыны ніколі ў рэстаран не хадзілі.

### МЯСЦОВЫЯ ЗВЫЧАІ

Перад уваходам на кватэру басанца трэба было зняць абутак і пакінуць яго перад дзвярыма. І ніхто яго не краў. Крадзяжоў на электрастанцыі я таксама не сустракаў. Здаралася многа і забаўных здарэнняў. Мой знаёмы інжынер, басанец, прыходзіў на працу і браў ключы ў лазню. Гэта мяне здзівіла і я яго запытаў: „Ты ж дома маеш ванну і цёплую ваду. Чаму ты не мыешся дома?" Ён усміхнуўся і сказаў: „Ты не ведаеш маёй сітуацыі. У мяне жонка цяжарная восьмы месяц. Калі б я пайшоў мыцца ў ванну ў сябе дома, то мая цешча падумала б, што я меў палавыя зносіны з цяжарнай жонкай. У нас пасля кожных палавых зносін мужчына абавязкова павінен выкупацца, каб змыць грэх, бо палавыя зносіны з жонкай гэта нешта нячыстае".

Басанку з вёскі можна было распазнаць па вопратцы. Ва ўсіх сукенкі былі сшытыя паміж нагамі, і здымалі іх зверху ўніз, як штаны. Вясковыя басанкі былі адзеты дрэнна і выглядалі непрыемна. Басанкі з горада насілі модныя сукенкі, яны ахвотна выходзілі замуж за сербаў ці харватаў. Сербіянкі рэдка выходзілі замуж за басанцаў з-за іх феадальных адносін да жанчын. У Тузлі былі дзве цэрквы: адна ў цэнтры горада, другая, меньшая, на могільніку. У нядзелю ў праваслаўнай царкве на набажэнстве заўсёды было многа людзей. У Тузлі быў толькі адзін каталіцкі касцёл. У нядзелю прыязджалі ў яго жыхары навакольных вёсак, а ўсе жанчыны насілі белыя сукенкі ці фартухі.

У Тузлі было некалькі невялікіх мячэцяў. Ніколі я не бачыў муэдзіна на мінарэце, але голас яго разносіўся з гучнагаварыцеля. Каб увайсці ў мячэць, перад дзвярыма трэба было скінуць абутак. Адна мячэць пры рынку была пастаўлена ў V стагоддзі. Аднак у мячэць хадзіла вельмі мала людзей.

У горадзе былі вялікія кантрасты. На акраінах горада многа было бедных малых і нават курных хат. Выглядала гэта дзіўна, калі ля дома стаіць заходні аўтамабіль, а з даху гэтага дома з усіх бакоў выплывае дым. На гэтых дамах не было комінаў. Многія прыватныя дамы, у якіх жылі польскія працаўнікі, былі вельмі багатыя, з усімі выгадамі, абаграваліся спецыяльнымі мазутнымі печкамі. Цэнтральнае ацяпленне было толькі ў шматкватэрных будынках. Зімою тэмпература рэдка калі зніжалася за 0°С, амаль усю зіму стаяла асенняе пахмурнае надвор'е.

Кантрасты бачыліся ва ўсёй Югаславіі. Калі я ехаў аўтобусам у Заграб, на многіх палях Харваты бачыў, як аралі зямлю валамі, як валы цягнулі воз. Перад валамі ішла жанчына, вяла іх.

### ЭКСКУРСІЯ

15 студзеня 1974 г. дырэкцыя электрастанцыі арганізавала польскім спецыялістам трохдзённую экскурсію ў Будву. У Тузлі тады было асенняе надвор'е і тэмпература +14°С. Калі мы прыехалі ў Сараева, спаткаў нас моцны мароз (амаль -25°С) і глыбокі снег. У Мастары зрабілася цёпла і я скіуў паліто і хадзіў па горадзе ў пінжаку. У Дуброўніку было яшчэ цяплей, а каля Будвы на наступны дзень купаліся мы ў моры, бо тэмпература вады была +17°С.

### РОДНАСЦЬ МОЎ

Польскія спецыялісты, якія даўжэй жылі ў Тузлі, добра ведалі сербахарвацкую мову. Я таксама пачаў яе вучыцца і за тры месяцы ўжо някепска гаварыў і пісаў. Тэхнічныя праекты былі зроблены на нямецкай мове, але мы рэдка ўжывалі яе на нарадах і ў размовах. Часамі мы толькі ўжывалі нямецкія тэрміны, калі не ведалі сербскіх. Паміж сербскай і харвацкай мовамі амаль няма ніякай розніцы. Харваты некаторыя словы вымаўляюць больш мякка, чым сербы. У сербаў сустракаюцца часам словы турэцкага паходжання, у харватаў гучаць яны інакш, хаця харваты таксама іх ведаюць. Большыя розніцы ў мове сустракаюцца паміж дыялектамі вёсак Познаньскага і Кракаўскага ваяводстваў, чым паміж сербамі і харватамі. Сербы ўжываюць у пісьме пераважна кірыліцу, а харваты — лацінскі алфавіт. Але ў каталіцкім саборы ў Заграбе адкрылі на сценах пад тынкам надпісы зроблены глаголіцай — алфавітам, які стварыў апостал славян Кірыла. Басанцы пішуць і кірыліцай, і лацінкай.

### ПРЫЧЫНЫ РАЗНІ

Сербы — праваслаўныя, харваты — католікі, басанцы — мусульмане, але не ўсе. Многа паміж імі было мешаных шлюбных пар. У партызанцы Ціта было многа як басанцаў, так і харватаў. Недалёка гасцініцы „Брысталь" стаіць гара. Паблізу сцежак на гэту гару ляжалі пліты з прозвішчамі партызан, якія загінулі ў Тузлі ў барацьбе з нямецкімі акупантамі. Там ляжыць іх некалькі соцень. Многія з іх — гэта басанцы-мусульмане, што можна пазнаць па іх імёнах. Ціта сам быў па бацьку харватам, а матку меў славенку. Таму ён не заўсёды добра адносіўся да сербаў і вызначыў граніцы паміж рэспублікамі такія, якія цяпер давялі да вайны. Гэта адна з прычын сённяшняй разні. Мілашэвіч, Туджман і Ізятбегавіч — гэта камуністычныя сануўнікі. Яны займалі важныя пасады і пасты ў югаслаўскай камуністычнай уладзе і арміі і захацелася ім стаць самастойнымі правадырамі ці важакамі народа, які падзялілі пры дапамозе заходніх дыпламатаў. Славенская ці македонская мовы адрозніваюцца ад сербскай і харвацкай, але славенцы і македонцы мелі неабмежаванае права ўжываць сваю мову ў рэспубліках. У Югаславіі не было адной мовы для ўсіх рэспублік, як гэта было ў Савецкім Саюзе. Там была федэрацыя. Калі ў тэлевізіі паказвалі славенскі фільм, то ўнізе карціны паказваліся сербахарвацкія цітры. Але іх можна яшчэ зразумець, калі захацелі аддзяліцца ад сербаў.

### ПОМСТА НЕМЦАЎ

Аднак падзел паміж сербамі, харватамі і басанцамі я лічу помстай немцаў за цітаўскую партызанку. Немцы ўвесь час бунтавалі харватаў супраць сербаў, стварылі харвацкія тэрарыстычныя арганізацыі, якія падкладвалі бомбы ў Бялградзе і ў іншых мясцінах Сербіі, узрывалі цягнікі ці рабілі іншыя тэрарыстычныя акты. На Захадзе не выступалі супраць іх так рашуча, як супраць арабскіх тэрарыстаў, а наадварот, давалі ім грошы і зброю. Гэта немцы знайшлі Туджмана і Ізятбегавіча, далі ім зброю, падбухторылі іх, а пасля прызналі ім самастойнасць. Сербы, якія ў час нямецкай акупацыі моцна пацярпелі ад усташаўцаў, не маглі цяпер да гэтага самага дапусціць. У час акупацыі усташаўцы забілі больш за 200 тысяч сербаў, многіх праваслаўных сілай прымусілі перайсці на каталіцызм. Туджман у Харватыі першы пачаў праводзіць этнічную чыстку сярод сербаў. У Заграбе ўсташаўцы хадзілі па дамах, дзе жылі сербы, забіралі іх і забівалі, калі тыя не хацелі падпісваць пасведчанні аб лаяльнасці да рэжыму Туджмана. Многія сербы вымушаны былі ўцякаць цэлымі сем'ямі ў Сербію і ўзяць у рукі зброю.

### ПАСЛЯ ТОЕ Ж САМАЕ ЗРАБІЛІ З БОСНІЯЙ

і Герцагавінай. Паслалі туды з захаду зброю, знайшлі правадыра Ізятбегавіча, падбухтавалі мусульман, і разам з харватамі прагаласавалі ў рэферэндуме за незалежнасць, а немцы гэтую самастойнасць Босніі і Герцэгавіны прызналі. Цікава, як бы рэагавалі палякі, калі б немцы далі зброю палякам у Сілезіі, сказалі ім правесці рэферэндум і аддзяліцца ад Польшчы. Ці Польшча згадзілася б даць ім самастойнасць? Гітлер калісь планаваў даць абмежаваную самастойнасць кашубам і гуралям і праводзіў сярод іх прапаганду, што яны бышцам бы не палякі.

Аб тым, што Ізятбегавічу не залежыць на сваіх падапечных, сведчыць забарона хворым і старым выйсці з акружанага Сараева. Лепш хай загінуць, чым мелі б выйсці з Сараева ці Срэбраніцы! А сваю сям'ю, нябось, не пакінуў там, а вывез у Турцыю.

Ізятбегавіч давёў Боснію і Герцагавіну да знішчэння, да вялікіх ахвяр сярод мірнага насельніцтва. Мусульмане, якія яму паверылі, будуць гэтага моцна шкадаваць дзесяткі год, многія з іх больш не вернуцца ў сваю айчыну. Гэта будзе вялікая навука на будучыню, што не трэба верыць чужаземным падбухторшчыкам.

**ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ**

*На здымку: харвацкі салдат у Мастары.*

# СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ПЕРАМАГЛА!

*Працяг са стар. 1*

высвяціў ужо закончаны гэты велічны храм, які больш за чатыры стагоддзі (да знішчэння яго ў 1944 г.) быў помнікам-жамчужынай царкоўнага будаўніцтва XVI ст. на беларускіх землях. Неўзабаве адно за другім паўстаюць: царква Уваскрасення Хрыстова над катакомбамі з прахам манаскай брацii, трапезная, вялікі дом з манаскімі келлямі, шэраг гаспадарчых аб'ектаў.

Відаць, адначасна з узвядзеннем першага храма ў Супраслі пачала дзейнічаць група манахаў-ізографаў. Яна забяспечвала ў іконы не толькі манастыр, але і паўстаючыя паблізу яго (у Гарадку, Харошчы, Заблудаве і інш.) храмы, а таксама хатнія ківоты навакольнага праваслаўнага баярства. Гэтая іканапісная традыцыя дала падставу да стварэння пад кіраўніцтвам „сербина Нектария маляра" перад 1557 г. знакамітага сценнага роспісу у Свята-Благавешчанскай царкве — славутых супрасльскіх фрэскаў. Іканапісная традыцыя ў Супрасльскай лаўры працягвалася і ў далейшых часах.

Рана, мабыць яшчэ падчас быцця ў Гарадку, паўстала група перапісчыкаў кніг. Потым, ужо ў Супраслі, у манастырскім скрыпторыі перапісваліся не толькі „Евангеллі", кнігі Старога Запавету, „Апосталы", творы Айцоў Царквы, жыціі святых і іншыя праваслаўныя багаслоўскія творы, але таксама творы свецкія, між іншым, летапісы, апісанні падарожжаў у далёкія краіны, пераклады заходняй свецкай літаратуры. Супрасльскія копіі разнастайных кірылічных твораў разыходзіліся па ўсім тагачасным праваслаўным свеце, траплялі нават у Грэцыю, на св. Гару Афон. Без ахвярнай і надзвычай плённай дзейнасці некалькіх пакаленняў пераважна для нас безыменных, але вядомых Усявышняму, супрасльскіх манахаў-капііставу не захаваліся б бясцэнныя творы мінулых эпох, часта ў адным-адзіным экземпляры летапісаў, духоўнай літаратуры. „Ацалелыя да нашых часоў архіўныя матэрыялы і рукапісы, створаныя ў Супраслі, даюць магчымасць лічыць Супрасльскі манастыр найбуйнейшым кнігапісным цэнтрам Беларусі і адным з найбольш значных ва Усходняй і Паўднёвай Еўропе ўвогуле", — сцвярджае вядомы знаўца гісторыі кірылічнага пісьменства прафесар Юрый Лабынцаў.

Супрасльскі манастыр ад заранку свайго існавання стаў адным з найбагацейшых на беларускіх землях кнігасховішчаў. У яго бібліятэцы ў 1532 г. знаходзілася 129 кніг, у 1557 г. — 209 тамоў, у канцы XVI ст. — некалькі соцень. Тут захаваліся помнікі сусветнага значэння: „Четья Минея" („Codex Supraski"), Кіеўскі, Наўгародскі і Супрасльскі летапісы, Супрасльскі рукапіс XVI ст. і многа іншых. Дзякуючы супрасльскім манахам і тамашняму кнігазбору стала магчыма заснаванне беларускімі першадрукарамі Іванам Федаровічам (Фёдаравым), Пятром Мсціслаўцам і заблудавянінам Грынем Івановічам першай на Падляшшы друкарні ў Заблудаве. Гэтым жа кнігазборам карысталася і пазнейшая супрасльская уніяцкая друкарня, вучоныя XIX і XX стагоддзяў, у тым і творца беларусазнаўства рэктар Варшаўскага універсітэта Яўфім Карскі.

Значэнне скрыпторыя і кнігазбору Супрасльскай лаўры для беларускай і культур суседніх народаў немагчыма пераацаніць. А нельга ж абмінуць і залатарства, якое тут квітнела, ці музычнай творчасці (тут паўстаў славуты „супрасльскі распеў", які да сённяшняга дня чуем у царкоўных спевах).

Брацiя праваслаўнай Супрасльскай лаўры славілася сваёй начытанасцю і грунтоўнымі тэалагічнымі ведамі. У іх асяроддзі паўстала шэраг арыгінальных твораў у абарону праваслаўнай Царквы ад агрэсіўных нападак ваяўнічых прапагатараў каталіцызму (напр. „Пасланне" ад 1511 г. арцыбіскупу гнезненскаму Я. Ласкаму, „Пасланне да лацінян" ад 1581 г. і „Сказанне на боганянавідную, на паганую лаціну" ад 1586 г., у якіх невядомыя па імю аўтары ўмела і пераканаўча адбіваюць атакі Ласкага і Скаргі на Праваслаўную Царкву) і тым самым бароняць ад паланізацыі беларускія землі.

Супрасльская лаўра даволі доўга абаранялася ад пераводу яе ва унію. Але ў 1635 г. ёй быў накінуты сілай устаў уніяцкага базыльянскага кляштара. Галоўным жа заданнем базыльянаў было ўсялякімі спосабамі навяртаць праваслаўных ва унію. З таго часу на 200 гадоў „Супрасльскі манастыр стаў ва ўсім падобны на базыльянскія кляштары і страціў значэнне як цэнтр тэалагічнай думкі і культуры", — сцвярджае вядомы знаўца мінулага праваслаўя на Беласточчыне д-р А. Мірановіч.

Гэтая цяжкая духоўная няволя закончылася ў 1839 г., калі уніяты перайшлі на ўлонне Праваслаўнай Царквы, і Супрасльская лаўра паступова залечыла нанесеныя ёй раны і вярнулася да ранейшай свае духовай місіі. Аднак ужо не з такім размахам і ўкладам для беларускай культуры — цяжкі русіфікатарскі бот не дазволіў на дзейнасць у гэтым напрамку. І ўсё ж вяртанне да роднага праваслаўя і ўсё ж брацкай усходнеславянскай, расейскай мовы ў значнай меры наблізілі Супрасльскую лаўру да беларускага люду: яна карысталася ў яго вялікай пашанай. Паломніцтвы „на святую Супраслу" дзеля пакланення цудадзейнай іконе Маці Божай Адзігітрыі Супрасльскай ішлі не толькі з Падляшша, Гарадзеншчыны, але нават з далёкага Палесся.



*Фрэскі з Супрасля.*

Першая сусветная вайна зноў перапыніла дзейнасць Супрасльскай лаўры. Не станем тут згадваць, колькі нашыя прадзеды, дзяды, бацькі і нават нашыя дзеці на чале з духавенствам уклалі намаганняў, каб вярнуць яе фактычнаму стваральніку і ўладальніку — Праваслаўнай Царкве. Адзначым толькі тое, што ў гэтай барацьбе за сваё беларуская праваслаўная грамадскасць ні на хвіліну не траціла надзеі на перамогу справядлівасці: малілася пра тое і дзейнічала. І Усявышні пачуў яе малітвы і блаславіў старанні.

Цяпер наступіў новы этап у амаль 500-гадовай гісторыі Супрасльскай лаўры — час напружанай і ахвярнай працы ў яе адбудове і вяртанні да колішняй духовай і культурнатворчай місіі. І ў гэтай справе — наперакор усялякаму злу і перашкодам — многа зроблена: адбудавана і вернута да духовага жыцця царква Іаана Багаслова, адбудавана адна частка манастырскіх гмахаў і ў ёй нясе свой послух манаская брацiя, адраджаецца з руін Свята-Благавешчанскі храм. Але гэта толькі пачатак, цудоўны пачатак велічнай справы...

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ЯШЧЭ АДЗІН МЕМАРЫЯЛ

28 верасня г.г. Галоўнае праўленне Таварыства супрацоўніцтва народаў усходняй Еўропы „Прыбліжэнне" наладзіла ў Варшаве сустрэчу з удзелам беларусаў, украінцаў і літоўцаў, мэтай якой было сфармуляваць змест мемарыяла ў адрас новага Сейма і ўрада. Запрошаныя былі таксама прадстаўнікі міністэрстваў культуры і мастацтва, нацыянальнай адукацыі і замежных спраў.

Багдан Скарадзінскі, аўтар кніжкі „Białorusini, Ukraińcy, Litwini. Nasi wrogowie czy bracia", сказаў падчас сустрэчы вельмі трапную тэзу, што такія сустрэчы паміж элітамі польскімі і нацыянальных меншасцяў нічога не вырашаюць. Найважнейшае тое, што адбываецца паміж людзьмі ў гарадах, гмінах, вёсках.

Віцэ-міністр культуры Міхал Ягела дайшоў да вываду, што цяпер у Еўропе адраджаюцца не толькі нацыяналізмы, а лепш сказаць — племянныя, вельмі прымітыўныя антаганізмы. І тое, што палякі на штодзень не цікавяцца беларускімі, украінскімі ці літоўскімі праблемамі — гэта зусім нармальная сітуацыя. Горш было б, калі б яны надта цікавіліся справамі нацыянальных меншасцяў.

Міністр Ягела паясняў далей, што Рэчпаспалітая будзе маці для ўсіх сваіх дзяцей, нягледзячы тое, якой яны нацыянальнасці. Не можа быць гутаркі пра парытэты ў адносінах да меншасцяў у Польшчы, Літве, Беларусі і Украіне, чаго дамагаюцца некаторыя палітыкі. Меншасці ў Польшчы будуць трактавацца з такой самай пашанай, як усе грамадзяне. Іх лёс не будзе залежным ад актуальнай палітыкі суседніх краінаў у адносінах да палякаў. Трэба адзначыць, — сказаў Ягела, — што ўрады Беларусі, Літвы і Украіны апошнім часам шмат дапамагаюць тамашнім палякам.

Прадстаўніца Міністэрства нацыянальнай адукацыі падкрэсліла, што польскія законы ў справах школьніцтва для нацыянальных меншасцяў згодныя з еўрапейскімі нормамі. Асветныя ўлады не абмежавалі ў гэтым годзе колькасць урокаў роднай мовы для нацыянальных меншасцяў, хаця агульны час працы настаўнікаў трэба было памяншаць. Сталася гэта, аднак, коштам іншых прадметаў. Далей прыпомніла яна адну праўду, якую ўсе зацікаўленыя павінны ведаць. Хопіць, каб было сямёра дзяцей ахвотных вывучаць родную мову і тады дырэктар мае абавязак арганізаваць заняткі і знайсці настаўніка. Права дазваляе таксама вывучаць гісторыю і геаграфію Беларусі ў рамках часу прадбачанага на навучанне гэтых прадметаў. Праграму можа апрацаваць сам настаўнік і прадставіць яе да ведама мясцовай куратарыі.

Старшыня Саюза ўкраінцаў у Польшчы Юры Рэйт заявіў, што не верыць у сілу ніякіх мемарыялаў. Было іх ужо шмат і ніхто не звяртаў на іх увагі. Ёсць сеймавая камісія па справах нацыянальных меншасцяў, працуе адпаведняе бюро пры Міністэрстве культуры, дзейнічае камісія, якую стварыў прэзідэнт Л. Валэнса і нічога з гэтага не вынікла для нацыянальных меншасцяў. Першы парламент пасля 1989 г. — паводле Ю. Рэйта — сапраўды шмат зрабіў для нацыянальных меншасцяў, другі — не зрабіў амаль нічога. Патрэбны канстытуцыйныя гарантыі правоў нацыянальных меншасцяў, асабліва на пераходны перыяд у напрамку дэмакратыі, у якім цяпер апынулася Польшча. Сітуацыя украінцаў, — прадаўжаў старшыня Саюза, — драматычная. Хаця і ёсць магчымасці зарганізаваць школу з роднай мовай навучання, аказваецца, што цяжка знайсці ахвотных. Дзякуючы намаганням украінскіх дзеячоў, удалося аднак пабольшыць на 50% лік вучняў, якія ходзяць на ўрокі роднай мовы.

Ян Сычэўскі, які выступаў ад імя БГКТ, сказаў, што некаторыя палітыкі сваімі выказваннямі паглыбляюць толькі стан недаінфармаванасці грамадства пра нацыянальныя меншасці, што выклікае падазронасць, а ў выніку гэтага — агрэсію, чаго доказам могуць быць антыбеларускія надпісы на сценах будынка Таварыства ў Беластоку ці разбітыя вокны. Старшыня БГКТ адмоўна ацаніў змест дакументальных фільмаў пра беларусаў Беласточчыны, зробленых беларускім і польскім тэлебачаннем. Адзін з іх, пастаўлены гданьскім кінарэжысёрам Яцкам Сарнацкім дэманстраваўся 23 верасня г.г. па II праграме тэлебачання.

Найгоршыя, аднак, фінасавыя клопаты — прадаўжаў Я. Сычэўскі. Амаль немагчыма атрымаць грошы на культурную дзейнасць ад бізнесменаў, а часта здараецца і так, што ў горадзе, у якім жыве 60% беларусаў, шэф мясцовай адміністрацыі заяўляе, што нельга рабіць там беларускія мерапрыемствы, бо і так замнога там беларушчыны. Здаралася, што войт гміны — дарэчы, беларус — рабіў ашчаднасці ў сваім бюджэце, абрэзваючы напалову гадзіны навучання беларускай мовы, а настаўнік прапанаваў ліквідаваць поўнасцю гэты прадмет. Ёсць школы, дзе беларускай мове вучаць зусім выпадковыя настаўнікі, каб толькі дабраць гадзін да поўнага штата.

Бяда ў тым, што падчас гэтай канферэнцыі перакананыя пераконвалі перакананых. Выказванні прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў слухалі толькі палякі, якія здаўна ставяцца да нас прыхільна і добра ведаюць усе нашыя праблемы — як згаданы Багдан Скарадзінскі ці прафесар Ежы Дамрош.

Тыя, якія будуць вырашаць справы меншасцяў, атрымаюць яшчэ адзін мемарыял. Але ці яго прачытаюць?

**Я. М.**

 

# НЕ ТОЛЬКІ АБ ГРЫБАХ

**Напрыканцы верасня г.г. тры дні ў Белавежы працягвалася выстаўка 180 відаў грыбоў Белавежскай пушчы, падрыхтаваная абодвума музеямі нацыянальных паркаў, якія знаходзяцца ў пушчы па розных баках дзяржаўнай граніцы. Да іх далучыўся таксама Лясны тэхнікум у Белавежы.**

**Грыбы глядзела звыш 1300 чалавек. Усе хвалілі выстаўку, якая, мабыць, будзе падрыхтоўвацца і ў будучым.**

**Ініцыятарам белавежскай выстаўкі быў захавальнік фондаў музея ў Камянюках на Беларусі, вядомы грыбазнаўца, д-р ПАВЕЛ МІХАЛЕВІЧ. Пры нагодзе яго знаходжання ў Белавежы, я ўзяў у яго інтэрв'ю.**

*— Спадар Міхалевіч, скажыце, як вы трапілі ў Белавежскую пушчу?*

— Маё першае сутыкненне з пушчай мела месца ў 1962 г. Я прыехаў сюды будучы яшчэ студэнтам Лесазнаўчага інстытута ў Львове. Пушча мяне зачаравала. Я зрабіў дыпломную працу на тэму грыбоў, якія выступаюць у Белавежскай пушчы на дрэвах. Пасля заканчэння інстытута ў 1964 г. я прыехаў працаваць і жыць у пушчы. Маім „бацькам хросным", як міколага, быў праф. Сяргей Шаўчэнка. У грыбазнаўства прыцягнула мяне таксама аспірантура ў пецярбургскай Лясной акадэміі.

*— Значыць, даследуеце белавежскія грыбы.*

— Вядома! Аб іх я напісаў ужо каля 80 прац. Я таксама быў адным з аўтараў сцэнарыя фільма „Грыбы", знятага „Масфільмам" у сямідзесятыя гады. Для Беларусі з Белавежскай пушчы я выявіў 10 новых відаў грыбоў, у гэтым ліку адзін новы для Еўропы, які дагэтуль быў вядомы толькі з Канады. Зрэшты, пра багацце грыбоў у белавежскіх нетрах няхай сведчыць тое, што працуючы тут ужо тры дзесяткі гадоў, я па сённяшні дзень знаходжу ўсё новыя віды. Для міколага тут проста рай!

*— Як думаеце, чаму ў пушчы столькі розных відаў грыбоў, што і пералічыць іх не пералічыш?*

— Вось, менавіта, у тым і справа, што пералічыць іх нельга. Яшчэ нядаўна аўтары турысцкіх даведнікаў пісалі, што ў пушчы расце звыш тысячы відаў грыбоў, зараз ужо ўспамінаюць пра дзве з паловай тысячы, а іх напэўна тут намнога больш!

Багацце грыбоў у Белавежскай пушчы — вынік пастаяннай, працяглай аховы гэтага ляснога масіву. Пушчу захоўвалі найперш дзеля і для зуброў, але адначасова скарысталіся гэтым і іншыя віды флоры і фауны. Трэба сабе ўявіць, што не ўдасца нам захаваць аніводзін від, калі не захаваем асяроддзе, у якім ён сябе добра адчувае.

*— Вы наладзілі цеснае супрацоўніцтва з пачатковай школай у Камянюках. Якія яго эфекты?*

— Вось, бачыце, я лічу, што дзіця, як гліна: з яго можна вылепіць што хочаш. Менавіта ў гэты перыяд маладому чалавеку найлягчэй прышчапіць любоў да прыроды. А каб пакахаць прыроду, трэба найперш яе пазнаць. У нашай школе ўжо даўжэйшы час існуе школьнае навуковае таварыства. Вучні пішуць працы пра грыбы, расліны, жывёл, лес, знаёмяцца з гэтымі тэмамі падчас заняткаў, экскурсій. За дваццаць гадоў цераз таварыства прайшло каля паўтысячы вучняў. Шмат з іх закончыла вышэйшыя навучальныя ўстановы, працуюць зараз леснікамі, педагогамі, сельскагаспадарчымі механізатарамі і г.д. Усе яны — людзі свядомыя. Я наогул лічу, што людзі знішчаюць прыроду не таму, што яны кепскія, але з-за няведання яе, няведання працэсаў, якія ў ёй адбываюцца. Каб чагосьці не знішчыць, трэба спачатку ведаць, навошта штосьці тое існуе, якая з гэтага карысць. Трэба чалавеку давесці да свядомасці, што прырода — гэта наша маці. А маці не пакрыўдзіць жа нават найвялікшы злачынец.

*— Давайце ўсё ж вернемся да вашых школьнікаў. Я чуў, што яны дабіваюцца вялікіх поспехаў.*

— Гэта праўда! Вось, у 1989 г. камянюцкія вучні былі запрошаны ў Маскву на экалагічную алімпіяду. І, што скажаце, вярнуліся пераможцамі, занялі І месца! Аказаліся лепшымі, чым вучні вядомых маскоўскіх школаў. Каму гэта магло падумацца!? Што гэта невыпадковы поспех, даказала наступная алімпіяда ў 1991 г., з якой дзеці вярнуліся таксама пераможцамі. У лютым г.г. мы запрасілі школьнікаў на алімпіяду да сябе, і на гэты раз нашыя дзеці таксама перамаглі. Зараз нам прыслалі запрашэнне на чарговую алімпіяду ў Маскву, якая адбудзецца ў снежні г.г. На жаль, на гэты раз мы не зможам паехаць таму, што білеты вельмі дарагія, а спонсараў не маем.

*— Думаю, што камянюцкія дзеці дапамагаюць вам у падрыхтоўцы чарговых выставак грыбоў.*

— А як жа магло б быць інакш? Я вам раскажу, як мы ездзілі ў 1983 г. арганізаваць выстаўку ў Маскве. Было ўжо гэта пад канец лістапада. Выселі мы з цягніка вельмі змучаныя, з процьмай пакункаў. „Ведаеце, дзеці, — кажу, — я ўжо застары цягацца з цяжарамі, сядайма на лаўкі і чакайма!" Селі мы, а тут раптам з усіх мегафонаў паплыла песня Пахмутавай пра Белавежскую пушчу. Дзеці ўзрадаваліся і кажуць: „Павел Кірылавіч, мы ведаем, што вы чарадзей, але скажыце, як вы зрабілі, што тут даведаліся аб нашым прыездзе?" Я тлумачыўся, што песню пусцілі выпадкова, але мне ніхто не паверыў.

На выстаўцы мы зарыентаваліся, што ноччу хтосьці выкрадае нам грыбы, асабліва баравікі. Дзеці паставілі варту. Выявілася, што вінаватыя вавёркі. Я паабяцаў, што ўсе грыбы аддамо ім пасля выстаўкі. І, што скажаце, вавёркі перасталі красці. Чарговы раз дзеці пераканаліся, што я „чарадзей".

Быць у Маскве і не паглядзець спектакль у лялечным тэатры Абразцова — гэта грэх. Заходзім, а тут аказваецца, што білеты прададзены ўжо на найбліжэйшае паўгоддзе. „Не хвалюйцеся, — гавару засмучаўшым дзецям, — мы іх зараз будзем мець, я ж чарадзей, як кажаце". Званю самому Абразцову. Гавару хто я і адкуль. Абразцоў без аніякага хістання даў нам бясплатныя білеты ў першым радзе. Дзеці не маглі ў гэта паверыць, пакуль не апынуліся ў тэатры.

І нанацец зацягнуў я сваіх дзетак у Вялікі тэатр. У нейкі момант адзін хлапец звяртаецца да мяне: „Мне ўжо надаела чакаць, калі гэтая дама кінецца ў канал!" „Пачакай, — кажу яму, — міне дзесяць гадоў і ты будзеш марыць, каб ізноў трапіць у гэты тэатр". Вядома, што мае словы пацвердзіліся!

*— А ці гэта праўда, што згаданая вамі песня Пахмутавай пра Белавежскую пушчу напісана па вашаму заказу?*

— Праўда! Вось, да яе напісання, Пахмутава і Дабранраваў прыляцелі да нас у пушчу на адпачынак. Я, вядома, быў экскурсаводам. На развітанне Пахмутава захацела падарыць мне сваю кружэлку. А я ёй сказаў, што яе падарунка прыняць не магу. На тварах усіх акружаючых нас паявіўся недавер і адначасова жах: „Што ён гаворыць, звар'яцеў ці што?" Я пачакаў хвіліну і працягваю: „... хіба, што вы паабяцаеце напісаць аб нашай пушчы прыгожую песню". Усе ўздыхнулі з палёгкай, паэт і кампазітарша згадзіліся, а праз нейкі час па радыё прагучэла „Белавежская пушча".

*— Кажуць таксама, што ў вас ёсць кніжка-унікум.*

— Хіба ідзе пра альбом „Белавежская пушча", у якім мне падпісаліся два касманаўты: беларускі — Пётр Клімук і польскі — Міраслаў Гермашэўскі, якія наведвалі ў розныя гады наш музей. Пра гэтую кніжку з аўтографамі пачынае дабівацца ў мяне музей касманаўтыкі. Ага! У мяне ёсць яшчэ адна вельмі рэдкая кніжка пра грыбы, якую мне даслаў некалі ў падзяцы за пацвярджэнне яго спадзяванняў, што ў Белавежскай пушчы расце адзін рэдкі від грыба, чэшскі міколаг Альберт Пілят. Гэта адзіны экземпляр у дзяржавах СНД.

*— На заканчэнне нашай размовы вернемся яшчэ раз да вашых выставак. Дзе вы іх яшчэ наладжвалі, апрача Масквы?*

— Традыцыйна, амаль штогод арганізуем іх у Бярэсці — у г.г. мелі ўжо пятнаццатую па чарзе. Раз выстаўку зрабілі ў Менску, ну і цяпер у Белавежы, але тут ужо дапамаглі не нашыя вучні, а тутэйшыя навучэнцы Ляснога тэхнікума.

*— Шчыра вам дзякую за цікавую размову.*

**Гутарыў ПЁТР БАЙКО**

# БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ-ВІЛЕНЧУКОМ

*(пачатак у 40 і 41 н-рах)*

**ГРАМАДСКАЕ — ЯК АСАБІСТАЕ**

Пабыўка ў спадара Хведара Нюнькі прайшла амаль маланкава. Старшыня Беларускага таварыства культуры быў вельмі заняты неадкладнымі грамадскімі справамі і таму я не смеў даўжэй турбаваць майго новага субяседніка. Быў я прыемна здзіўлены: тая самая, што ў спадарства Луцкевічаў, энергія, шпаркае ды прэцызійнае фармаванне думак, аптымізм. Прызнаюся, што ў маёй шматгадовай геранталагічнай практыцы не так ужо і часта даводзілася сустракацца з падобнымі, у позніх гадах жыцця, людзьмі. Яшчэ лепш я ўсведаміў сабе, што чым больш амбітныя ставіць чалавек перад сабою мэты, асабліва калі яны згодныя з духоўнымі запатрабаваннямі асяроддзя, тым мацнейшы адчувае прыліў сіл, якіх існавання раней не спадзяваўся. Проста — асабістае атаясамліваецца з агульным, а тады агульнае — згодна з узаемна-адваротным працэсам — з асабістым. Гэта, уласна кажучы, і з'яўляецца крытэрыем чалавечага шчасця. Памятайма, што агульная псіхафізічная структура чалавека ўсцяж патрабуе штуршкоў, каб не дэградавацца. А калі яны ў дадатак выкліканы шляхетнымі парывамі сэрца, тады, як кажуць, можна перамяшчаць горы.

Справы, закранутыя ў размове са спадаром Нюнькам, натуральным спосабам працягвалі сустрэчу са спадарствам Галінай і Лявонам Луцкевічамі. Вось на што асабліва звярнуў увагу старшыня. Шмат яшчэ трэба зрабіць дзеля рэстытуцыі Музея ім. Івана Луцкевіча. Літоўскія ўлады не маюць нічога супраць такога мерапрыемства, якое, аднак паводле іх, павінна мець грамадскі характар, інакш кажучы, без фінансавай дапамогі дзяржавы. Як ад-значыў спадар Хведар, справа звароту часткі Базыльянскіх муроў таксама турбуе беларускую грамадскасць Вільні. Каштоўным пачынаннем павінна быць адбудова дома жонкі Якуба Коласа ў Павільнюсе, дзе ўсталяваўся б музей вялікага класіка беларускай літаратуры. Зараз робіцца крокі, каб пляц, на якім яшчэ зусім нядаўна стаяў дом (ён развальўся ад старасці), быў перададзены Беларускаму таварыству культуры.

У далейшых планах прадбачана стварэнне Музея ў антокальскай кватэры Пятра Сергіевіча (Антокаль — адзін з раёнаў горада). Таварыства можа пахваліцца ўвекавечаннем памяці Івана і Антона Луцкевічаў, а таксама вядомага драматурга Францішка Аляхновіча на Літарацкай горцы віленскіх Росаў, дзе знаходзяцца іх сімвалічныя магілы і помнікі, выкананыя віленскім скульптарам Эдвардам Падбярэзскім. Такім чынам пачаўся працэс ушанавання памяці выдатных беларусаў гэтай зямлі, якіх астанкі спачываюць у невядомых месцах. Пачуў я, што грамадскі апякун Росаў, паляк, спадар Брунан Тарчэўскі аказаў дапамогу ў справе ўзнікнення гэтых санктуарыяў. Дадам, што не абмінуў я і гэтага гістарычнага месца, нават пазнаёміўся са спадаром Тарчэўскім. Прыемна было слухаць. як цёпла ацаніў ён беларусаў-віленчукоў за іх дбайнасць пра свае нацыянальныя справы.

Цікавілі мяне першыя арганізацыйныя зрухі беларускага жыцця ў Вільні. Яны паявіліся ў 1988 годзе і засярodзіліся ў Палацы культуры прафсаюзаў. У гэтым жа самым годзе заснаваўся Клуб аматараў беларускай народнай творчасці „Сябрына". Ладзіў ён, у прыватнасці, сустрэчы з вядомымі прадстаўнікамі культуры, навукі, з пісьменнікамі. Часта прыязджалі госці з Беларусі, былі тут, між іншым, паэтэса Данута Бічэль-Загнетава і вядомы беларусіст, праф. Адам Мальдзіс. Да дзейнасці „Сябрыны" прымкнуў літоўскі вучоны, географ, праф. Чэслаў Кудаба, сын Нарачанскага краю. Па яго ініцыятыве і паўстала Таварыства беларускай культуры пры Літоўскім фондзе культуры, ім жа тады ўзначаленым. Шмат зрабіў праф. Кудаба для віленскіх беларусаў. На жаль, няма ўжо яго ў жывых. Сёння працягвае гэтую традыцыю жонка прафесара. Калі быў я ў рэдакцыі „Нашай Ніvы" якраз яна тэлефанавала; запрапанавала, каб частка хатняй біліятэкі Кудабаў узбагаціла рэдакцыйную, што было вельмі сардэчна ўспрынята.

Сёння галоўныя намаганні Таварыства, як моцна заакцэнтаваў спадар Хведар, накіраваныя на павышэнне самасвядомасці беларусаў-віленчукоў, на стварэнне клімату, спрыяючага ўзнікненню новай інтэлігенцыі, перш за ўсё шляхам развіцця адукацыі на ўсіх узроўнях.

Гаспадар запрапанаваў на нашае развітанне сімвалічную чарку. Мы і выпілі за далейшыя поспехі ў дзейнасці Беларускага таварыства культуры.

*(заканчэнне будзе)*

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**



 

**Станіслаў СУДНІК. Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Менск, Незалежная выдавецкая кампанія "Тэхналогія", 1992 г. - 32 с., наклад 1000 паасобнікаў.**

## БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА: КРОКАМ, РУШ!

Кожны, хто меў калі-небудзь справу з перакладамі на беларускую мову спецыфічна прафесійных тэрмінаў, добра ведае, як цяжка бывае дасканала перакласці тое ці іншае слова. І гэта не з тае прычыны, што беларуская мова, маўляў, такая бедная. Проста да нядаўняга часу аматары беларускага слова былі пазбаўлены многіх дапаможнікаў у галіне перакладаў слоў прафесійнага ўжытку. І вось, нарэшце, спецыяльныя слоўнікі з галіны спецыяльных ведаў пачалі выдавацца ў Рэспубліцы. З'явіўся беларускі слоўнік тэхнічных тэрмінаў, беларускі юрыдычны слоўнік. Гэта абгрунтавана не толькі пабольшаннем кола аматараў беларускага слова, а перш за ўсё "Законам аб дзяржаўнасці беларускай мовы", прынятым некалькі гадоў таму - некаторыя пункты яго хоць і вельмі марудна, але ўсё ж пачынаюць выконвацца.

І вось, нарэшце, выйшаў з друку яшчэ адзін слоўнік - для вайскоўцаў. Сёння, напэўна, ніхто не стане спрачацца, што Беларусь ніколі не мела сталых вайсковых традыцый - паходы і бітвы пад камандаваннем Хадкевіча і Астрожскага цяпер вядомыя не толькі спецыялістам-гісторыкам - яны вывучаюцца і на школьных занятках. З параўнальна нядаўніх часоў можна прывесці прыклады антыкамуністычнага Слуцкага ўзброенага чыну, з яшчэ недаўнейшых - Беларускай краёвай абароны. Натуральна, што вайсковая арганізацыя вымагала і спецыфічна беларускіх тэрмінаў. Гэткая арганізацыя вымагае беларускіх тэрмінаў і цяпер, калі войска Рэспублікі Беларусь ператвараецца з арміі колішняга СССР у армію сапраўды нацыянальную...

Нельга сказаць, што ў Беларусі і раней не выдаваліся адпаведныя дапаможнікі - варта згадаць адзін з раздзелаў "Падручнага расейска-крыўскага (беларускага) слоўніка" В. Ластоўскага а таксама літаратуру, выдадзеную ў Менску падчас "беларусізацыі" 20-х - 30-х гадоў — "Ваенны расійска-беларускі вайсковы слоўнік" 1933 года і "Практычны беларускі вайсковы слоўнік" М. Байкова і А. Бараноўскага 1927 года. Дарэчы, цяпер ужо мала хто ведае, што ў тыя часы службовай мовай Чырвонасцяжнай Беларускай вайсковай акругі была беларуская мова, і што славуты савецкі маршал Г. Жукаў, які ў 20-х гадах праходзіў службу ў Менску, быў вымушаны гэтую мову дасканала вывучыць.

Гэта, так бы мовіць, перадгісторыя. А цяпер — непасрэдна пра кніжку.

Натуральна, што складальнік слоўніка меўся перш-наперш вывучыць папярэднія крыніцы — як, скажам, вышэйзгаданыя (гэта пазначана ў спісе скарыстанай літаратуры). Безумоўна, навукова-тэхнічная рэвалюцыя ў галіне вайсковай справы абвастрыла пытанні, якія не паўставалі ў папярэдніх складальнікаў — як, скажам, перакласці на беларускую мову расейскія тэрміны "боеприпасы", "коробчатый магазин", "глубокоэшелонированная оборона", "орденская планка"? Асабіста мне спадабалася перш за ўсё тое, што ў перакладзе гэтых словаў аўтар дапаможніка сп. С. Суднік свядома адмовіўся ад найбольш простага шляху ўжывання русізмаў — як гэта цяперака найчасцей робіцца ў перакладах тэрміналогіі, а вышукаў адпаведныя менавіта беларускія словы: "ладунак", "пачкавы набойнік", "глыбокастадыяваная абарона" і "ордэнская ліштва". Прыемна таксама тое, што ў перакладах амаль няма суфіксаў "ір", "ер", уласцівых больш для расейскай мовы, чым для нашай — напрыклад, слоўнік падае "мінаванне" замест звыклага "мініраванння", "бамбаванне" замест "бамбардзіроўкі". Увогуле, культура мовы гэтага дапаможніка досыць высокая.

Але ўсё ж такі асабіста ў мяне склалося дваістае ўражанне: з аднаго боку — гэтая вельмі своечасовая кніжка нарэшце з'явілася, што, безумоўна, цешыць. З другога — мае яна да смешнага мізэрны наклад, і выдадзена не Міністэрствам абароны, як гэта і мае быць у цывілізаванай дзяржаве, а намаганнямі энтузіястаў з Беларускага згуртавання вайскоўцаў пры тэхналагічнай дапамозе патрыятычна настроеных бізнесменаў з "Тэхналогіі" і "Дайновы". Тым самым часам Міністэрства абароны паспяхова выганяе з войска сяброў БЗВ, а грошы, якія можна было б выдаткаваць на падрыхтоўку такіх патрэбных кніжак, ідуць на ўтрыманне нікому непатрэбных газет накшталт "Во славу Родины" - перыёдыка беларускіх вайскоўцаў па-ранейшаму чамусьці выдаецца на мове суседняй дзяржавы. Такая вось "беларусізацыя"... І як то ні дзіва, Міністэрства абароны мае грошы на ўтрыманне інстытута выхавацеляў (раней яны называліся зампалітамі, а яшчэ раней - палітрукамі). Як і чаму ў сваёй пераважнае большасці "выхоўваюць" яны салдат у былых "ленінскіх пакоях" - агульнавядома: на прыкладах "великих русских полководцев А. Суворова" (які, "вызваляючы" Польшчу ад палякаў і Беларусь ад беларусаў, праславіўся, між іншым, жорсткім падаўленнем паўстання Тадэвуша Касцюшкі), на прыкладах "Отечественной войны 1812 года" (якая для беларусаў была не "отечественной", а грамадзянскай)...

Так што пакуль суверэнная Беларусь не мае ўласнае дзяржаўнае дактрыны пабудовы сапраўды нацыянальнага войска, падобныя слоўнікі хутчэй за ўсё будуць успрымацца беларускім генералітэтам не як патрэбныя і карысныя, а, хутчэй, як чарговыя "выверты нацыяналістычных экстрэмісцкіх сілаў ды дэструктыўных элементаў"...

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**




*МІРА ЛУКША*

**СЫН**

Аддаў першародства за поўную міску.
За клуняй у быллі трухлее калыска.
Палягалі платы на дзірван, у асоты.
На цвінтар каляіны раскіслі балотам.

Адышоў, як стаяў -- не хацеў браць
нічога --
Ні добрага слова, ні аскепку з парога,
Ні шчарбатага кубка, ні пярнікі
з пярыны,
Што матуля збірала на лютыя зімы.

Пайшоў, а за ім бег пабіты, кульгавы,
З хатулём на гарбе, маленькі, танклявы
Не цень нават, не ценік, а ценю самота,
Што як бабіна лета чапляўся да плота.

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**ТЫВАЛІ *)**

У чорным дзіўным капялюшы
Нас сустракае Чарлі Чаплін,
Яго усмешка, вусы, вушы
Здалёк відны на п'едэстале.
Далей фігура Гарбачова,
А побач Рэйгана, Валэнсы:
Стаяць, глядзяць уверх сурова,
Як бы нішто не мела сэнсу.
Пасля героі слаўных казак
З братамі Грым і Андэрсенам
Застылі ўсе, як у экстазе,
Каб паказацца пакаленням.
Так мастакоў і музыкантаў,
Артыстаў опер і балетаў,
Палітыкаў і фабрыкантаў
Змясцілі тут, як славы свету.
Падвал жа поўны розных страхаў,
Стаяць за кратай ваўкалакі.
Пачвары з казак, стогны жахаў,
Істоты збеглыя з галактык.
І белы дух пужае крыкам
Бяжыць да нас, пасля ўцякае,
І чараўнік з мятлой вялікай,
І ведзьма злая і худая.
У вузкай келлі гільяціна
Здымае галаву без ката
Адной Марыі Антаніне.
Яна ляжыць паблізу краты.
Выходзім нарэшце з музея,
А перад намі парк чароўны,
Фантаны, шумныя алеі,
Тэатр, кафэ, палац каштоўны.
Рай для дзяцей. Як на вяселлі,
Іграе музыка навокал,
Лятаюць віхрам каруселі
Убок, уніз і ўверх высока.
Па возеры мігаюць лодкі,
Бягуць вагоны па пуцях...
А дзеці цешацца салодка,
Палае радасць ў іх вачах.

**) Тывалі — у Капенгагене музей васковых фігур і побач вялікі парк з атракцыёнамі для дзяцей.*

## НАШЫ ДАПАМАГАЮЦЬ НАШЫМ

„Наш". У тлумачальным слоўніку беларускай мовы так пасняецца гэтае слова: „Які мае адносіны да нас, да членаў якога-небудзь калектыву, які складаецца з нас (...), які знаходзіцца ў сваяцкіх, сяброўскіх і іншых адносінах з намі...", у словазлучэннях: „Ведай нашых!", „І нашым і вашым", „наш брат", „наш чалавек", „Дзе наша не прападала!"

Пры нармальных адносінах „свой цягне да свайго". „Наш" дапаможа „нашаму" — на тое ж ён „наш!". Калі нават што і не так у сям'і, то вядома — разбярэмся сярод сваіх, як у сям'і. Вядома, ёсць больш „нашыя" — бліжэй цела ўласная кашуля, але ў бядзе наш чалавек павінен дапамагчы свайму, а ў радасці — цешыцца яго поспехам. Калі ёсць інакш, калі „наш" рады праблемам сваіх, то нармальны чалавек на такое скажа, што бываюць рэнегаты, якія гадзяць у сваё гняздо. Але ж паганыя адшчапенцы — таксама рэдкасць. „Нашы" ж людзі — „простыя", добрыя, разумныя, сумленныя, пачцівыя, а ўжо тыя, каго яны выбралі на сваіх правадыроў — асабліва прыстойныя, годныя пашаны. Найлепшыя! Не можа быць інакш — добрае дрэва дае добры плод. І яны якраз павінны дбаць пра сваіх.

Сярод нашых ёсць люд просты, які не вылучаецца нейкімі асаблівымі прыкметамі, апрача працавітасці, сумленнасці і дабраты, але трапляюцца, на нашу пацеху, таленты каштоўнасці дыяментаў. Іх каштоўнасць бачаць не толькі нашыя; дарэчы, часта „чужыя" першыя заўважаць нашыя скарбы. Маем сваіх прафесараў, мастакоў... Адной з такіх



асоб ёсць скромная дзяўчына з Белавежскай пушчы, Тамара Тарасевіч *(на здымку)*, мастачка-аматарка з талентам прафесіянала, „да якой дакрануўся Бог", як пра яе пішуць, якой творчасцю захапляюцца аўтарытэты. Дацаніліе яе талент і арганізатары І З'езда беларусаў свету — запрасілі Тамару на вялікую выстаўку прац найлепшых беларускіх мастакоў з усяго свету, якая ўрачыста адкрывала свята. Прыслалі ў Белавежу афіцыйны ліст-запрашэнне з просьбай раней даслаць слайды карцінаў і творчую біяграфію для каталога выстаўкі. Гарантавалі прыём, як афіцыйнаму госцю З'езда. Тамара выпаўніла просьбу, паслала адпаведныя звесткі. Забраць мастачку на З'езд разам з карцінамі абяцала кіраўніцтва БГКТ бэзэкатоўскім транспартам — аўтобусам, які меў везці дэлегатаў ад Таварыства; былі нават у гэтай справе ў Белавежы, у доме Тарасевічаў. Тэлефанавалі з ГП БГКТ пару дзён перад З'ездам з інфармацыяй, каб мастачка як найхутчэй прывезла ў Беласток усе дакументы і дазвол на вываз дзвюх карцін за мяжу. Тамара і Сяргей Тарасевічы ў той жа дзень памчаліся самаходам у Беласток, а ў ГП БГКТ сказалі ім, што... месца ў аўтобусе ўжо няма!.. Тамара са слязьмі ў вачах працягнула запрашэнне, а мастачцы рашуча адказалі: „Гэта ж не ёсць запрашэнне на з'езд! Вось як яно павінна выглядаць! Ніхто вас, як бачым, у Менск не запрашае!" „Можа, гэта і праўда, падумала разгубленая мастачка — калі так кажа афіцыйная асоба, якая ведае, пэўна, лепш, пэўна, яе паведамілі, ці ж не так?.. Як жа можа простая дзяўчына з нейкай Белавежы прадстаўляць беларускую культуру Беласточчыны на такой выстаўцы!.."

Бэзэкатоўскі аўтобус прыехаў у Менск, поўны заслужаных дэлегатаў-дзеячоў. Частку з іх я бачыла ў тэатры, дзе адбываўся З'езд і на іншых мерапрыемствах. Тамара Тарасевіч мела сваё месца ў каталогу выстаўкі, але яе карцін не было на сценах Палаца мастацтваў. Пыталіся пра яе мастацтвазнаўцы, мастакі. Не хацела я тлумачыць культурным людзям з Менска ці Нью-Йорка, чаму „нашыя" не дапамаглі „нашай" мастачцы, а зрабілі ёй звычайнае, паскуднае свінства. Зрабілі гэта не ёй адной, а нам усім. Дай Божа, каб гэта была толькі звычайная іх неразумнасць, а не злосныя, зацятыя намеры нішчыць нашае, найлепшае. І то ў выкананні „нашых", найлепшых — бо выбраных намі.

Ды хто іх ведае... Ведаю ад людзей з Міністэрства інфармацыі Беларусі, хто прыклаў сваю ўсё яшчэ моцную ручку да таго, каб „Ніва" не атрымала пару рублёў на дадрукаванне яе і распаўсюджванне ў Беларусі. Ці гэта нейкая нячыстая сіла муціць камусьці ў галаве, ці можа тут справа ў сабатажы **чужых?**

**МІРА ЛУКША**
**Фота аўтара**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЛЮБІСТА — НЕ ТОЛЬКІ ПРЫПРАВА

Любіста аптэчная ці *Lubczyk ogrodowy* (*Levisticum officinale* Koch) — шматгадовая расліна, айчына якой дакладна невядомая. Маркуюць, што паходзіць яна з Ірана. Сёння любісту вырошчваюць у многіх краінах Еўропы і іншых кантынентаў. Часамі сустракаецца здзічэлая. У Польшчы садзяць яе на зёлкавых плантацыях, у гарадскіх і вясковых гародах.

Сцябло любісты расце да 2 м вышыні, пры ім ёсць шмат галін, у сярэдзіне яно пустое. Лісце прадаўгаватае, закончанае зубкамі. Кветкі жоўтыя, сабраныя ў парасоны. Плады прадаўгаватыя, даўжыня іх — 6—8 мм. Уся расліна вылучаецца спецыфічным араматам, напамінаючым пах сельдэрэяў (сэлераў).

Для лячэння збіраюць восенню карэнні любісты ў другім годзе вегетацыі, чысцяць іх, палошчуць, рэжуць уздоўж і хутка сушаць у ацяпляемай сушарні. Тэмпература павінна быць 35°С. Лячэбнай сыравінай з'яўляецца корань любісты — *Radix Levistici*. У народнай медыцыне выкарыстоўваюцца таксама плады любісты — *Fructus Levistici*, якія не прымяняюцца ў афіцыйнай медыцыне, аднак жа вартыя ўвагі.

Прэпараты з любісты дзякуючы прысутнасці эфірнага масла дзейнічаюць на арганізм мачагонна (слаба). Рэгулююць таксама рытм перыстальтычных рухаў кішак. Супрацьдзейнічаюць уздуццям і дапамагаюць адвядзенню газаў. Дапамагаюць праплыванню жоўці ў дванаццаціперсную кішку. Стымулююць паляпшэнне працэсаў пераварвання і прысвойвання ежы. Рэгулююць менструацыю ў жанчын.

У некаторых раёнах Еўропы існуе пераканане, асабліва ў народных павер'ях, што любіста можа быць паспяховым сродкам на каханне. Не пацвердзілі гэтага, аднак, навуковыя доследы.

Жыхары некаторых аколіц Германіі лічаць таксама, што пры дапамозе прэпарату з гэтай расліны можна адвыкнуць ад курэння. Доследы былі праведзены ў клінічных умовах і далі добрыя вынікі.

Корань любісты ўваходзіць у склад зёлкавых гранулак *„Urogran"* („Herbapol"), якія прымяняюцца пры запаленні мачавога тракту і пры каменнях у нырках, а таксама ў склад зёлкавай мяшанкі *„Cardiosan"* („Herbapol"), якая рэкамендуецца пры хваробах сэрца, асабліва ў пажылых людзей, паколькі ў мяшанцы выкарыстоўваецца ветрагонае ўздзеянне любісты з мэтай змяншыць націск кішак на перапонку і аблегчыць працу сардэчнай мышцы.

Экстракт з карэнняў любісты ўваходзіць у склад зёлкавага гранулату *„Cholegran"* („Herbapol"), які ўжываецца пры недастатковым выдзяленні жоўці, а таксама гранулату *„Gastrogran"* („Herbapol"), які прымяняецца пры катаральных станах страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

Маладое лісце любісты, якое збіраюць у перыяд ад чэрвеня да жніўня, спажываюць таксама свежым або высушаным у якасці прыправы да супоў, тушанага мяса, соусаў і салатаў. Змеленае і змешанае з іншымі зёлкамі, з'яўляецца смачнай прыправай да марынадаў і іншых страў у краінах паўднёвай Еўропы. Экстракты з лісця і карэнняў любісты з'яўляюцца падставай прыправы ў плітках тыпу „Магі". У некаторых аколіцах Швейцарыі маладое лісце і сцяблінкі любісты выкарыстоўваюць у якасці салаты. І ў нас у апошні час гэта расліна выкарыстоўваецца што раз шырэй як прыправа і дадатак да салатаў.

Калі корань любісты выкарыстоўваць з лячэбнымі мэтамі без ніякіх дадаткаў, яго дабрадзейны ўплыў будзе нязначны, аднак жа яго ўздзеянне на арганізм чалавека надта ўзрасце, калі ўключыць яго ў правільна скампанаваныя зёлкавыя мяшанкі.

**МАЧАГОННЫЯ ЗЁЛКІ**

Змяшаць 30 г кораня любісты, па 20 г лісця бярозы, зёлак хвашчу і струкоў фасолі, а таксама па 10 г лісця талакнянкі і пладоў шыпшыны. Заліць паўтары лыжкі зёлак у тэрмасе дзвюма шклянкамі кіпетню. Зачыніць і настаяць 1 гадзіну. Піць па 1/3 шклянкі 2 разы ў дзень паміж ядою.

**ВЕТРАГОННЫЯ ЗЁЛКІ**

Змяшаць па 50 г кораня любісты і кветкі рамонку, а таксама па 25 г пладоў анісу (*Pimpinella anisum* L.) і кораня дзягіля. Заліць 1 лыжку мяшанкі 1,5 шклянкі гарачай вады і пад пакрыўкай падаграваць павалі да кіпення. Настаяць 15 мінут і працадзіць. Піць 2 разы ў дзень па паўшклянкі пасля яды.

**СТРАЎНІКАВА-КІШЭЧНЫЯ ЗЁЛКІ**

Змяшаць па 50 г пладоў ці кораня любісты і лісця валоскага арэха, а таксама па 25 г насення кмену і зёлак крываўніка. Заліць 1,5—2 лыжкі зёлак 2 шклянкамі кіпетню і трымаць на пары пад пакрыўкай 15 мінут. Настаяць яшчэ 15 мінут і працадзіць. Піць 2 разы ў дзень 2/3 шклянкі пасля яды пры лёгкім катары страўніка і кішак, звязаных з нерэгулярнымі апаражненнямі.

**ЗЁЛКІ ДЛЯ ВАННЫ**

Змяшаць па 50 г кораня любісты, кораня лопуха і зёлак трыпутніка. Падрыхтаваць адвар з гэтых зёлак, заліўшы іх 3—4 літрамі вады, падаграваць пад пакрыўкай на маленькім агні да кіпення, а тады настайваць 15 мінут. Працадзіць у ванну. Зёлкі пералажыць у палатняны мяшочак, завязаць і таксама павесіць у ванне, напоўненай да 1/3 аб'ёму вадой (тэмпературай 38°С). Час купання — 15—20 мінут. Пасля гэтага накрыць мокрае цела купальнай прасціною і адпачываць 30—60 мінут. Ванну прымаць праз 2—3 дні на працягу 4 тыдняў пры скурных хваробах, запаленні мачавога пузыра і палавых органаў.

ЭСКУЛАП




# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**ЧАСТКА XV**

Амаль усе мае папярэднія размоўцы выводзіліся з „ніжэйшых" грамадскіх праслоек. Сёння прагну пры вусцы выказванні чалавека, які належыць да высокай інтэлектуальнай сферы. Ён — шасцідзесяцігадовы прафесар вышэйшай навуковай установы. Вось галоўныя тэзы яго погляду на справу вайсковага саюза Беларусі з Расіяй:

„На праблему гэту трэба глядзець гістарычна. Калі патрактуем яе агістарычна, можам выпусціць з поля зроку найважнейшыя ўласцівасці з'явы. Расія была экспансіўнай дзяржавай на працягу ўсёй сваёй гісторыі. Экспансіўнасць гэта дала вельмі добрыя для Расіі рэзультаты. Яшчэ нядаўна Расія дамінавала над тэрыторыяй ад Курыльскіх астравоў да Эльбы і ад Ледавітага акіяна да Балканаў. Такой магутнай аднароднай палітычнай структуры мабыць не было ніколі ў гісторыі чалавецтва. І вось гэта структура на нашых вачах пачала развальвацца. Слепата Гарбачова заключалася ў тым, што яму здавалася, што аддаўшы ўсходнюю Германію, утрымае і лагер сацыялістычных краін, і Савецкі Саюз. Не разумеў, што ГДР было той падвалінай, на якой трымаецца ўсясветная сацыялістычная сістэма і Савецкі Саюз. Сталася так, як сталася. У ігру ўмяшаўся Ельцын, які пастараўся абыграць Гарбачова і зайграў картай, якая абазначала ліквідацыю Савецкага Саюза. Зразумела, што ані Ельцын, ані яго старонніки поўнасцю не ўсведамлялі таго, што абазначае для Расіі ліквідацыя Савецкага Саюза. А абазначала тое, што Расія гвалтоўна страціць твар і гонар. Мала гэтага, ліквідацыя Савецкага Саюза паставіла пад пагрозу існаванне Расіі ўвогуле, а гаворачы дакладней, стварыла рэальную магчымасць распаду Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі. Сёння такая магчымасць відавочная для ўсіх рускіх: і для рабочых, і для сялян, і для інтэлігенцыі, і для арміі. Тое, што сталася, вельмі балюча ўдарыла па рускай нацыянальнай і вялікадзяржаўнай амбіцыі. Як рускі чалавек сцерпіць тое, што нейкія там, як гавораць пагардліва руская „чэкмекі" тыпу Татары ці Чэчэніі, будучы акружанымі з усіх бакоў рускімі, прымаюць пастановы аб незалежным ад Расіі дзяржаўным існаванні? Падобным чынам глядзяць руская і на незалежнасць Беларусі. У разуменні рускага чалавека Беларусь — гэта неад'емная частка Расіі, а беларуская мова — сапсаваны дыялект рускай. Сказанае адносіцца не толькі да простых людзей, але часта і да інтэлектуальнай вярхушкі. Ты ж ведаеш, што падобны пункт гледжання мае і такі інтэлектуал як Аляксандр Салжыніцын, для якога Расія, Беларусь і Украіна — гэта нераздзельная цэласць. Так па сутнасці глядзіць і ўвесь рускі народ. У кожнага рускага родзяцца ў сэрцы сентыментальныя пачуцці, калі ўспомніць ён Савецкі Саюз ад Курылаў да Эльбы. А ведай, што для гэтых рускіх Савецкі Саюз асацыюецца з Расіяй. Калі гаворым аб ідэі ваеннага саюза Беларусі з Расіяй, мусім улічваць усё тое, што я сказаў аб настроях у рускім народзе. Саюз гэты ёсць формай рэстаўрацыі савецкай дзяржавы, што на практыцы абазначае рэстаўрацыю рускай імперыі.

Бяда ўся ў тым, што мільёны моцна абруселых беларусаў маюць, калі не поўнасцю такі самы, дык вельмі падобны погляд на справу. Беларускі народны фронт інакш бачыць гэту праблему. Зважаў аднак на тое, што Беларускі народны фронт — структура вельмі слабая. Пераканаешся аб гэтым у часе парламенцкіх выбараў, якія будуць крахам для БНФ. Ведай, што посткамуністычныя сілы ў Беларусі асягнуць у выбарах намнога лепшыя вынікі, чым у Літве. І гэтыя вынікі створаць новыя шанцы для ідэі вайсковага саюза Беларусі з Расіяй, які стане ступенькай вядучай да ўсё большай уніфікацыі абедзвюх дзяржаў. Ці гэтая уніфікацыя давядзе да ўзнікнення новага Савецкага Саюза, не ведаю. Аднак будзе гэта крок у такім напрамку."

АЛЕСЬ БАРСКІ

# БУДЗЕ ДЗЕСЯЦЬ НА ТВАЁ МЕСЦА!

Мірка жыла ў горадзе, а Юрка ў вёсцы. Пазнаёміліся на вясковай забаве. Хлопец адпразу пачаў гаварыць аб вяселлі.

— Не пайду я на вёску! — сказала дзяўчына. — Не магу сабе ўявіць, як там можна жыць, працаваць. Пераедзеш у горад, тады пайду за цябе.

— Не перажывайся. Збудую ў горадзе дом, там будзем жыць. Але, пакуль што, пажывем у маіх бацькоў.

Праз тры месяцы было вяселле. Пачалі жыць у Юркавых бацькоў, як раней дамовіліся. Юрка ездзіў працаваць у горад, Мірка сядзела дома, дапамагала свёкрам у гаспадарцы.

Свякруха чамусьці незлюбіла нявестку.

— Худая ды малая, каб хоць вучоная была... — казала суседкам. Суседкі, прыглядаючыся, як нявестка добра працуе, гаварылі Ганне:

— Што ты кажаш? Добрае дзіця табе дасталася! А што наконт адукацыі, то ж можа цяпер зрабіць ліцэй ці вечаровы тэхнікум. Твой жа Юрка таксама мае толькі „завадоўку"...

— Юрка пойдзе ў тэхнікум. Ён таленавіты, не тое, што гэтая...

— Не наракай, не наракай!

Праз год Мірка нарадзіла дачку. Калі прыехала са шпіталя, свякруха не рушыла пальцам, каб ёй дапамагчы. Мірка сама насіла ваду, цяжкія вёдры з кормам для свіней. Муж таксама не бачыў патрэбы памагаць. Злаваўся на плачучае ноччу дзіця.

— Слухай, я не магу выспацца! Мне вучыцца трэба, на працу ісці! Табе з гэтым усім не цяжэй, чым мне!

Ужо канчаў вучыцца ў вечаровым тэхнікуме, як знёсся з прыбіральшчыцай. Купляў ёй розныя падарункі, а жонцы шкадаваў на новую сукенку. А іншым распавядаў, што Мірка водзіцца з чужымі, прыкладаў да яе нават свайго брата і швагра.

Праз год нарадзіўся ім сын. Юрка пачаў будаваць дом у горадзе. І былі іншыя жанчыны.

Калі ішлі ў гасціну, Юрка быў душою кампаніі. Жонка сядзела ціха. Няхай бы толькі муж убачыў, што да каго ўсміхнулася ці што каму сказала! Чакала яе тады дома сварка. Свякруха, слухаючы яе скаргаў, тлумачыла ёй:

— А ты і маўчы, і дагаджай яму, гэта ж твой муж! Ён мае права. На тваё месца дзесяць чакае!

Мірка маўчала. Дый куды ёй дзецца? У бацькоў яшчэ пяцёра, у яе сваіх двое... Без працы, без адукацыі!.. Часта прасіла Бога лёгкай смерці для сябе і дзетак. Часе ж ім мучыцца без яе?..

Урэшце Юрка збудаваў дом. Пераехалі жыць у горад.

— Ну, цяпер то ты шукай работу, бо не буду працаваць на цябе і тваіх байструкоў, бо невядома, чые яны будуць!

Мірка пайшла працаваць у швальню. Краўчыхай была добрай, зарабляла шмат, часам больш прыносіла грошай, чым муж. Юрка, аднак, называў яе лянівай каровай і валацугай. Аднойчы муж рашыў адсвяткаваць свае імяніны. Запрасіў шмат гасцей. Балявалі да позняй ночы. Дзеці не маглі заснуць, прасілі матку, каб лягла побач з імі.

— Пачакайце, малюткі, госці пойдуць і я да вас прыйду, — прасіла Мірка.

Урэшце госці разышліся. Засталася толькі адна пара, Крыся і Метэк. Мужчына так напіўся, што заснуў за сталом, і немагчыма было яго дабудзіцца. Крыся рашыла застацца і пераначаваць. Мірка пасцяла ложак гасцям і пайшла да дзяцей.

Калі прачнулася, пачала прыбіраць у хаце. Потым хацела пайсці ў краму. Заўважыла адчыненыя дзверы гаража. Спалохалася, падумала, што, можа, зладзеі вывелі машыну. Заглянула і ўбачыла свайго мужа з Крысяй у адназначных абставінах. Хвіліну пастаяла, потым закрычала. Юрка і Крыся, паўраспранутыя, вылезлі з фіата. Прыбег Метэк, схапіў жонку...

— Ах ты, хам, — расплакалася Мірка. — Я тваіх дзяцей гадую, прыбіраю пасля тваіх баляў... Ты мне ўсё пра маіх „каханкаў", а сам, вось, у маёй машыне!..

— Што?! Ты так да мяне?! Ведаеш, дзе тваё месца?!

Мірка пакінула мужа, забрала дзяцей. Хутка далі ім развод. Юрка ажаніўся, але і тут не ўжыўся. Пасля ездзіў у сваты, хаця даўно ўжо выйшлі яны з моды, у далёкія вёскі, але ніхто якасьці яго не хацеў. Людзі так меркавалі: раз развёўся б, ну і што ж, бывае, але калі не ўжыўся два разы? Штосьці тут не так...

Вылысеў ад згрызоты Юрка, распіўся, хату зруйнаваў.

Мірка пайшла замуж. На гэты раз трапіла ніядрэнна. Нарадзіла трэцяе дзіця. Аднойчы спаткала сваю былую свякруху і спытала:

— А дзе ж вашых дзесяць, што мелі быць на маё месца?

Не пачула адказу на сваё пытанне.

АЎРОРА

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Яны будуць вучыцца ў Беларускім ліцэі.* Фота М. Лукшы

## У ГОСЦІ ДА КРАТА

Сонца прыпякала, з ласкавага і шчыкотнага рабілася злосным, і маці тады пераходзіла ў цень, пад сасну. А Валерыку хоць бы што. Ён спёкі не баяўся і нават нос лісцікам не заклейваў — хай загарае. Грому ён таксама не баяўся.

— Табе не страшна, сынок? — азвалася са свайго ложка маці, калі ноччу пачало бліскаць і грымець. Сама яна ад страху гатова была залезці пад коўдру з галавой. Ї наогул маці зусім не падобна на дарослага чалавека — худзенькая, тоненькая ды яшчэ, як бачыце, і палахлівая.

Валерыку ўспомнілася, як у час навальніцы бабуля вешала на разеткі галёшы і захінала посцілкай люстэрка. Пры кожным удары грому яна божкала ды хрысцілася. Валерык так і не змог яе пераканаць, што баяцца трэба маланкі, а не грому.

Калі і было яму ноччу не па сабе, дык зусім не з-за грымотаў. Ён яшчэ не прывык да гэтага вялікага дома, куды яны прыехалі на адпачынак. Усё было чужое, незвыклае для вока — і залочаная люстра, і цяжкія прыгожыя шторы, і каляровыя мяккія дарожкі. Ї сяброў сабе хлопчык пакуль не знайшоў. Так што назаўтра, калі як ні ў чым не бывала заззяла сонейка і трохі падсохла, яны з маці ўзялі пакрывала і падаліся загараць.

Каля дзяжурнай на праходзе Валерык праходзіў няспешна, знарок павольна, і яна яму прыветна ўсміхнулася. Тым, хто бегае, яна ўсмешак не дорыць: строгім позіркам, без слоў напамінае, што тут Дом творчасці, людзі пішуць кнігі, і ўсялякім малым дзецям лепей бегаць ды шумець дома. Яна б і словамі напомніла, але не паспявала: хлапчукі праносіліся міма, як матацыклы на гонках, і толькі дробны тупат чуўся з лесвіцы і з калідораў.

Луг быў мокры. Давялося ўладкавацца на крутым схіле, што аддзяляў луг ад ляска. Учарашні лівень перапоўніў рэчку, і вада яшчэ не вярнулася ў нешырокае абрывістае рэчышча, трава была прыбітая і выглядала чэзлай, нежывой.

Пакуль маці з кнігай раз-пораз перабягала з санцапёку ў цень, Валерык ляжаў нерухома, з заплюшчанымі вачамі. Раскінутымі сваімі рукамі-нагамі ён нагадваў няскладнага Бурацiну.

— Ты ж бы хоць пераварочваўся, — не стрывала маці. — Блін на патэльні і то пераварочваюць, каб зарумяніўся з двух бакоў аднолькава.

Валерык сеў. Не таму, што паслухаўся маці, а зусім па іншай прычыне. Пад левай нагой, дакладней — пад пакрывалам яму пачуўся нейкі рух, нейкае слабенькае варушэнне. Штосьці там як быццам расло, узбухала. Як і ўсялякая невядомасць, гэта спачатку насцярожыла. Хто там? Яшчарка? Мыш? Вужака?

Хлопчык паволі адхінуў рог пакрывала і ахнуў. На яго вачах з зямлі вывяргаўся пясчаны вулканчык, прыкметна рос, і стала ясна: на паверхню прабіраецца крот!

— Яму горача там, накрытаму, вось і вылазіць, — зрабіў вывад хлопчык.

А маці, падумаўшы, дадала:

— На гэтым узгорку, сынок, ён ратаваўся ад паводкі. А жыў, як і ўсе краты, у пойме, дзе цяпер вада.

Яны стаялі на каленцах і, затаіўшы дыханне, сачылі за ходам падземнай працы. Валерык неяк бачыў крата, аднак нежывога. Уразілі лапкі — шырокенькія, вельмі падобныя на чалавечыя далоні. Гэтымі лапкамі жывы, уратаваны ад навальнічнай паводкі крот зараз спрытна адграбае пясок.

Нейкім новым позіркам акінуў хлопчык пакручастую, мутную цяпер рэчку. Маці кажа праўду: ноччу вада пазалівала і норы, і гнёзды, для ўсяго жывога на лузе гэта было сапраўдным навадненнем. А віной усяму лівень, які шумеў усю ноч.

☞ *Працяг на стар. 10*

## КАСТРЫЧНІК

Позняя восень. Шэрая заслона зацягнула ўсё неба. Некалькі дзён запар імжыць дождж. Лес стаіць спакойны. Навокал холадна, няўтульна. Паветра насычана пахам прэлага лісця і грыбоў. Жоўтае, аранжавае, пурпуровае лісце перыстым дыванам засцілае зямлю. З аднаго месца на другое пералятаюць чародкі сініц, чачотак, пішчух.

А вось на рабіне, абсыпанай яркачырвонымі ягадамі, зімовыя вандроўнікі: чырванагрудыя снегіры і чубатыя амялушкі. На палях і ў ярах вялікімі чародамі ходзяць шэрыя курапаткі. На імшарах з'яўляюцца чародкі белых курапатак. Вандруюць па ельніках рабчыкі. Збіраюцца ў бярэзніках і алешніках цяцеркі. Глушцы кормяцца брусніцамі і журавінамі.

У кастрычніку, з надыходам халадоў, соні і аселыя кажаны пачынаюць перасяляцца на зімовыя кватэры. Рукакрылыя — у склепы і іншыя зацішныя куткі. Зімовыя сховішчы сонь часцей размешчаны пад грунтам ляснога подсцілу і зямлі. У зімоўцы кажаноў і сонь многа агульнага. Ї тыя і другія восенню тлусцеюць і засынаюць на ўвесь халодны перыяд года, з кастрычніка па красавік, зімуюць па адным і невялікімі групамі. Соні любяць збірацца ў цесны гурток. Іншы раз зімоўкі заканчваюцца трагедыяй: той, хто прачнуўся вясной або ў моцную адлігу першым, з'ядае сваіх суседзяў.

А гэта што за звярок сядзіць, амаль на самай макаўцы высокай сасны? Маленькі, папяліста-шэры, з доўгім пушыстым хвастом. Пераўтварыўшыся ў пляскаты квадрацік, звярок плануе ўніз, лёгка манеўруе паміж сучкоў і галін. Гэта вавёрка-палятуха — падобная на звычайную вавёрку, але значна меншая за яе. Палятуха занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі.

Пахаладанне выклікае ў пушных звяроў ліньку. Гарнастай і ласка, жоўта-карычневая летам, зараз робіцца цалкам белымі. Зніклі яркія светлыя плямкі на скурках аленянят і казулянят, а ў маленькіх дзікоў-парасяткаў прапалі светлыя палосы на спіне.

З кожным днём халадней. Зіма не за гарамі.

А. КУРСКОЎ

*ПЯТРУСЬ ГРАНІТ*

### У ГРЫБАХ

Колькі радасці, уцех,
Лес гамоніць рэхам.
Той упаў, а той пабег
Ї заліўся смехам.

— У мяне — баравікі!..
— А ў мяне — апенькі!..
— Рыжык у мяне які —
Хвацкі, хоць маленькі!..

— Вось грузды, вось маслячок.
— Вось лісічак горы...
А Міхалка ледзь валок
Кошык мухамораў.

Усе ў рогат: — Вось дзівак!..
Вось табе і ўдача?!.
— А дамоў ісці мне як?.. —
Ї грыбнік аж плача.

### ВЕРАСОК

— Верас, верас, верасок,
Што ты ростам невысок,
Ї чаму ты, сіні,
Сцелешся ў нізіне,
Ї чаму наўкола
Над табою пчолы?..

— Каб прыкрыць сухі пясок,
Забіраюся ў лясок;
А каб дол быў сіні,
Я расту ў нізіне.
Пахну густа мёдам.
Пчолкі — карагодам!..

### КОНІК-КАВАЛЬ

Конік добры быў каваль,
Ён каваў жалеза, сталь,
Сам сабе рабіў падковы:
Раз, два стукне — і гатова!..

Ходзіць кузня, ходзяць сцены,
Бо куе каваль адменна,
Выкуе сярпок, касу —
Серабрыстую красу.

Усе хвалілі каваля —
Шапкі скідвалі здаля,
А як стаў ён задавацца —
З ім ніхто не стаў вітацца.

З той пары ён не куе,
У траве ўвесь дзень снуе,
Марна па загонах скача.
Па сваім умельстве плача.

### ХМАРКА

— Хмарка, ты куды плывеш?
Што з сабою ты нясеш?
Мо маланкі, гром і град?..
— Хто ж тады мне будзе рад?!.

Я нясу ваду жывую,
Ї нясу яе туды
Дзе па ёй даўно сумуюць
Лес, і нівы, і сады!..

## ДЗЕ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ?

Па даных апошняга перапісу насельніцтва, у Літве пражывае 3 млн. 675 тысяч чалавек. З іх літоўцаў — 2 млн. 924 тыс., рускіх — 344 тыс., палякаў — 258 тыс., беларусаў — 63 тысячы.

Насельніцтва Латвіі складае 2 млн. 667 тыс. Латышоў з іх — 1 млн. 388 тыс., рускіх — 960 тыс., беларусаў —120 тыс., украінцаў — 92 тыс., палякаў — 60 тысяч.

У Эстоніі, якая налічвае 1 млн. 565 тыс. насельніцтва, усяго 963 тыс. эстонцаў. Акрамя іх тут пражывае 475 тыс. рускіх, 48 тыс. палякаў, беларусаў прыблізна столькі ж.

Нашы землякі пражываюць і ў іншых рэгіёнах былога СССР. Напрыклад, у Малдове іх амаль 20 тыс., у Грузіі — 8,5 тыс., у Арменіі — крыху больш 1 тысячы.

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

# ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА

**-6-**

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

Сказаўшы гэта, яна ўхапіла сваімі маленькімі вострымі зубамі Разалі за прыпол і моцна пацягнула за сабой. Разалі пачала крычаць, чапляцца за бацьку, але яе цягнула нейкая неадольная сіла. Гаротны чарадзей не вытрымаў, схапіў палку і замахнуўся ёю на Мыш, але не паспеў ён апусціць рукі, як Мыш дакранулася да яго сваёй маленькаю лапкай, і ён знерухомеў, зрабіўшыся падобным да статуі. Разалі абедзвюма рукамі абхапіла бацькавы калені і закрычала, молячы Мыш злітавацца, але тая засмяялася сваім страшным пранзлівым смехам і адказала:

— Хадзем, хадзем, мая любачка, табе яшчэ двойчы трэба паддацца тваёй мілай цікаўнасці, але гэта будзе не тут. За два тыдні, што засталіся да твайго дня нараджэння, мы з табой шмат дзе пабываем і я шмат чаго табе пакажу.

Мыш яшчэ мацней пацягнула дзяўчынку, але Разалі з такою сілай абхапіла бацьку рукамі, што нават нягледзячы на ўсю незвычайную варажбітчыну моц, тая не магла яе адарваць. Тады Мыш раптам рэзка і пранізліва віскнула, і ўвесь дом разам патануў у агні. Разалі не разгубілася, яна здолела зразумець, што калі застанецца тут і згарыць разам з домам, то астатняя надзея ўратаваць бацьку будзе страчаная і ён назаўжды застанецца рабом Мярзотнае варажбіткі. А калі яна захавае сабе жыццё, то захавае і магчымасць уратаваць бацьку.

— Бывай, мой бацька! — закрычала яна. — Мы абавязкова ўбачымся праз два тыдні. Вашая Разалі прынесла вам многа гора, але яна вас і ўратуе, абяцаю вам!

І яна кінулася ўпрочкі, ратуючыся ад полымя. Яна доўга бегла, сама не ведаючы куды, потым яшчэ некалькі гадзін ішла і нарэшце, не адчуваючы ног ад стомы і паўжывая ад голаду, адважылася падысці да нейкай добрай кабеты, якая сядзела на парозе сваёй хаты.

— Пані, — сказала ёй Разалі, — ці не дасцё вы мне прытулак? Я паміраю ад стомы і голаду, дазвольце ж мне ўвайсці ў вашу хату і правесці ў вас ноч.

— Але чаму такая прыгожая дзяўчынка цягнецца адна па дарогах? — здзівілася кабета. — І што гэта з вамі за брыдкая мыш з такой страшнаю пысай?

Разалі азірнулася і ўбачыла побач шэрую Мыш, якая глядзела на яе кплівым позіркам.

Яна хацела яе прагнаць, але Мыш упарта стаяла на месцы. Убачыўшы іх барацьбу, добрая кабета заківала галавой і сказала:

— Ідзіце, красуня, сваёй дарогай. Я не даю ў сябе прытулку нячыстай сіле і тым, хто з ёй знаецца.

Заплакаўшы, Разалі пайшла далей, і паўсюль, дзе яна ні пыталася, яе не хацелі пускаць, таму што ўсе бачылі брыдкую Мыш, якая ні на крок не адставала ад дзяўчынкі. Неўзабаве Разалі ўвайшла ў дрымучы лес. На шчасце, яна знайшла ў ім чыстую ручаіну і змагла наталіць смагу. У лесе было шмат арэхаў і ягад; і вось, папіўшы ды паеўшы, Разалі села, прытуліўшася да дрэва і з трывогай пачала думаць пра свайго бацьку ды пра тое, што ёй рабіць і як быць адной усе гэтыя два тыдні. Думаючы так, Разалі заплюшчыла вочы, каб не бачыць праклятае шэрае Мышы; стома і прыцемак пачалі наганяць на яе дрымоту, і яна заснула глыбокім сном.

**Глава 3**

**Чароўны прынц**

Пакуль Разалі спала, у лес на палянане з паходнямі прыехаў Чароўны прынц. Ён сабакамі атутаваў аленя, і той, перапалоханы, схаваўся ў хмызах непадалёк ад месца, дзе спала Разалі. Сабачая зграя і мысліўцы былі ўжо зусім блізка, яны гатовыя былі накінуцца на аленя, калі сабакі раптам перасталі брахаць і ціха скупіліся вакол Разалі. Прынц сышоў з каня, каб пусціць сабак зноў у пагоню. Але якое ж было яго здзіўленне, калі ён убачыў прыгожую маладую дзяўчыну, якая спакойна спала пасярод дрымучага лесу! Ён паглядзеў вакол, але нікога болей не ўбачыў: яна была адна, зусім адна, пазабытая ўсімі. Разглядзеўшы яе ўважлівей, прынц заўважыў на яе твары сляды ад слёз, якія і цяпер каціліся з яе заплюшчаных вачэй. На Разалі была простая сукенка, але пашыта яна была з вельмі дарагога ядвабу, яе прыгожыя белыя ручкі, тонкія пальчыкі, акуратныя каштанавыя валасы, дбайна зашпіленыя залатым грабянцом, зграбныя чаравічкі і нізка дробных перлаў на шыі — усё сведчыла пра яе высокае паходжанне.

Дзяўчына спала, хоць вакол тупалі капытамі коні, брахалі сабакі, шумна перагукаліся загоншчыкі і мысліўцы. Здзіўлены прынц не мог звесці вачэй з Разалі, але ніхто з прыдворных не ведаў, хто яна і адкуль. Прынц пачаў хвалявацца, чаму дзяўчына спіць такім непрабудным сном? Ён ціхутка ўзяў яе за руку, але Разалі не прачнулася. Тады ён крыху пакратаў яе за плячо, але ўсё роўна не змог пабудзіць.

*(Працяг у наступным нумары)*

## *Вершы Віктара Шведа*

**ЭГЛЕ — ВУЖОЎ КАРАЛЕВА**

На пастаменце жанчына
Змагаецца з вужам заўзята.
Сюды прыходзіць няспынна
З вялікай цікаўнасцю Ната.

Прыгожая з бронзы скульптура
Нату ўстрывожыла дужа.
Азвалася Ната панура:
— Пані ваюе з мужам.

**РУЖЫ**

У лабірынце паркавых алей,
Што да прагулак людзям служаць,
Стаіць палац — бурштынавы музей,
Наўкол цвітуць на клумбах ружы.

— Калі зрываць не дазваляюць руж, —
Азвалася да мамы Ната, —
Апаўшыя пялёсткі забяру я,
І павязу духмяныя дахаты.

**ТРЫ ГАДЫ**

Ужо, здаецца, паўбяды,
Такой хвіліны дачакалі,
Калі ад роду тры гады
Нашай спаўняецца Наталлі.

Змяняецца нам на вачах,
Усё знаць хоча ў наваколлі,
Усё разглядвае ў руках,
Ахвотна ходзіць у прадшколле.

І вырасла ўжо з немаўлят,
Малым стаецца чалавечкам.
Мы праспявалі ёй „Сто лят",
На торце здзьмухнула тры свечкі.

Дачушка мілая, расці,
Будзь разумнейшай з кожным годам.
Шчасліваю будзь у жыцці,
Шануй бацькоў сваіх заўсёды.



*Віктар Швед і Натка.*
**Фота Валянціны Швед**

**ХВАЛЬБА**

Хваліць проста да нябёс
Настаўніцу Коля:
— Ведамі фармуе лёс
Яна вучняў ў школе.

— На хвальбу тут шкада слоў, —
Запярэчыў Вася. —
Дзесяць жа яна гадоў
Сядзіць ў адным класе.

**ПЫТАННІ БЕЗ АДКАЗАЎ**

Тату папрасіў Іван:
— Адкажы прыстойна,
Ці Спакойны акіян
Сапраўды спакойны?

Ты не адказаў — тады
Можа пагаворым,
Ці мора Мёртвае заўжды
Было мёртвым морам?

**ПА ГОЛАСЕ РАСПАЗНАЮЦЦА**

У летнім лагеры дзіцячым,
Што на падгор'і, у лясочку,
Тата натоўп дзяцей убачыў
І не пазнаў свайго сыночка.

— Пэўна вас даглядаюць дрэнна.
Як жа сябе распазнаеце,
Усе замурзаны страшэнна?
— Па голасе, — сказалі дзеці.

# У ГОСЦІ ДА КРАТА

☛ *Працяг са стар. 9*

Хлопчыку ўявілася, як узбухае, выходзіць з берагоў вада, як, апанаваны жахам, бяжыць сваімі падземнымі калідорамі крот... Прырода бывае не толькі гаючай, мілай воку, але яшчэ і грознай. Па тэлевізары не раз паказвалі, якія пажары бушуюць у сельвах, колькі бедаў прыносяць смерчы і землятрусы. Цікава, а ці ўмеюць краты плаваць? І ці праўда, што з іх шкурак вырабляюць футры? Ды іх жа на адну сто штук патрэбна!

— Мама, а з чаго пашыта тваё футра?

Маці не здзівілася нечаканаму пытанню.

— З нутры, — адказала яна. — Іх спецыяльна гадуюць, каб было з чаго шыць зімовыя апраткі.

Хлопчык з палёгкай уздыхнуў. Пясчаны грудок тым часам расці перастаў. Крот, мабыць, адчуў прысутнасць людзей і затаіўся. Ці проста пашырыў сваю норку, паветра ў ёй стала болей, вось і заціх.

— Ой, спаліла плечы! — схамянулася маці і пабегла ў цень. А Валерык цярпліва чакаў, ці не вылезе кроцік, ці не з'явіцца яго вострая падслепаватая пыска. Паколькі вочы ў яго ёсць, значыць, некалі кратовы род жыў на паверхні. Што ж прымусіла яго зарыцца, схавацца ў зямлю? У нядзелю прыедзе бацька, Валерык зводзіць яго на гэтае месца — у госці да крата. І на ўсе свае пытанні пачуе адказы.

**ГАЛІНА КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*МІРА ЛУКША*

**СОНЯ**

Хто спявае песню-соню?
Хтосьці ў сівым жупане.
Пры ім дрэмле срэбны конік,
Што здалёк сюды прыбег.

Замарыўся срэбны конік,
Узмакрэў ды збіўся з ног...
А для вас спявае гномік,
Што ўзабраўся на парог.

Спіце, дзеткі, спіце моцна,
І ты, конік, адпачні.
На дварэ заснула ночка,
Толькі месячык звініць,

Б'е праменьчыкам у шыбу,
Забягае у ваш дом,
Коніку ўплятае ў грыву
Быццам стужку-казку -- сон.

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

# БАБА ЁШКА

Удзельнічае ў гульні неабмежаваная колькасць дзяцей. Выбіраюць бабу Ёшку. У яе два сабакі — Байкал і Мухтар. На зямлі абводзяць круг. Гэта сад. Баба Ёшка і сабакі ў крузе. Усе ўдзельнікі гульні бегаюць па-за кругом і крычаць:

— Баба Ёшка, касцяная ножка!

Баба пасылае сабак лавіць дзяцей. Усе ўцякаюць. Каго сабакі зловяць, той становіцца на месца бабінага сабакі.

# АДГАДАНКА



*Упішы ў кольцы лічбы ад 1 да 13 так, каб сума трох лічбаў на адной лініі была 18.*

 

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 18 КАСТРЫЧНІКА

16.10 Тэлебачанне — школе. Пазакласнае чытанне. 4-ы клас. А. Клышка. „Францыск Скарына, або як да нас прыйшла кніга". 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі. 17.00 „Спасціжэнне ісціны". 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь — Фінляндыя. 2-гі тайм. 18.50 Час асэнсоўваць. Погляд на літаратурны працэс. 19.20 На старце — міліцыя. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 „Аб'ектыў-тэатр" у Мазыры. 22.30 НІКа.

### АЎТОРАК, 19 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Ты прываражыла..." Фільм-канцэрт. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Тэлебачанне — школе. Пазакласнае чытанне. 4-ы клас. 8.20 Тэлевізійны дом кіно. 9.30 Хакей. Чэмпіянат МХЛ. „Цівалі" (Менск) — „Лада" (Тальяцці). 3-ці перыяд. 10.05 „Актрыса". Мастацкі фільм (Германія). 11.30 „Пакуль дыхаю, спадзяюся". Дак. фільм. 11.50 Гандбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Беларусь – Фінляндыя. 2-гі тайм. 12.30 Навіны. 12.40 „Гандзі". Маст. фільм (Англія, Індыя). 1-я серыя. 14.10 „У гарах Дыгоры". Кінанарыс. 14.30 „НОВ & К — топ-10. 15.30 Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 5-ы клас. Пейзаж у творах беларускіх мастакоў. 15.50 „Кубік", „Калі вельмі захацець", „Лянівая сукенка", „Тры сінія-сінія возеры малінавага колеру". Мультфільмы. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Дакрананне", „Нязгаснае ззянне фарбаў". Дак. фільмы. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 Якое ранне заўтра нас чакае? Аб сённяшнім і будучым вёскі. 19.10 Тэлевізійны акцёрскі клуб. Да міжнароднага фестывалю монаспектакляў. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 21.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 НІКа. 21.55 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 22.15 „Як толькі ноч ліпнёвая". Канцэрт майстроў.

### СЕРАДА, 20 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Фільм-канцэрт. 8.00 Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 5-ы клас. 8.20 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.15 „Школьная аперэта". Дак. фільм. 9.35 Спартыўны стыль. Інфармацыйна-забаўляльная праграма. 10.15 „Заяц, скрыпі скрыпка". Мультфільм. 10.30 „Дзень гневу". Маст. фільм. 11.50 Знаёмыя незнаёмцы. Духавы аркестр Міністэрства абароны. 12.30 Навіны. 12.40 „Гандзі". Маст. фільм (Англія, Індыя). 2-я серыя. 14.10 „Мелодыі экрана". Фільм-канцэрт. 14.45 „Гэтыя цудоўныя рукі". Дак. фільм. 15.10 Летніца. Праграма фальклор-тэатра„Госьціца". 15.25 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі. 16.55 „Голас", „Гарадзецкая цацка". Дак. фільмы. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель). 18.10 „Пяць зорак". Тэлегульня. 19.05 Дзелавая размова. Сустрэча з дырэктарам Магілёўскага завода сельскагаспадарчага машынабудавання, В.Р. Чартковым. 19.35 Кантакт: адрасы. прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 НІКа. 21.55 „За цудоўных дам!" Маст. фільм.

### ЧАЦВЕР, 21 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Кінанарыс „Агат". 7.35 „Тры святы". Фільм. 8.25 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.20 Фільм-канцэрт. 10.10 Дакументальныя фільмы. 11.00 Памяці Паўлюка Багрыма. Свята на радзіме паэта. 11.35 „Пяць зорак". Тэлегульня. 12.30 Навіны. 12.40 „Чалавек ніадкуль". Маст. фільм. 14.00 Мультфільмы. 14.25 „Асоль". Маст. фільм. 15.30 Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 10-ы клас. Культура Беларусі на пачатку XX стагоддзя. 16.10 Дзіцячая тэлефілармонія. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Дак. фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо... 18.15 Здароўе. Тэлечасопіс. 19.20 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 Студыя „Формула".

### ПЯТНІЦА, 22 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Мелодыя малахітавай скарбонкі. Фільм-канцэрт. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 10-ы клас. 8.40 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.35 „Бадзягі поўначы". Маст. фільм. 10.50 „Спявае Рафаэла Кара". Фільм-канцэрт. 11.45 Роднае слова. Тэлечасопіс. 12.15 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 12.30 Навіны. 12.40 „Сутыкненне". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 14.50 „Шкрыблякі", „Спадчына". Дак. фільмы. 15.35 „ПІК". Відэаканал для падлеткаў. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі. 16.55 „А мае міране — добрыя людзі". Дак. фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Палітычны калейдаскоп. Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці. 18.40 „Новая грань". Фільм-канцэрт. 19.05 Якія мы гаспадары. Бярозаўскі шклозавод „Нёман". 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Кат". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.

### СУБОТА, 23 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Кат". Маст. фільм. 1-я серыя. 8.40 Урокі здароўя. 9.00 Паказвае Брэст. Сацыяльна-эканамічная праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 „Кат". 2-я серыя. 11.40 Тэлевізійны клуб „Гаў-гаў". 12.05 Культурныя і моўныя традыцыі каталіцтва ў Беларусі. 12.45 ТА „Рэха". Тэлесезон. Справаздача аб летняй практыцы. 13.15 „Жыццё з песняй". Сямейны ансамбль Дубовікаў з вёскі Белая Лужа Слуцкага раёна. 13.40 „Скарб'93". Фестываль талентаў. 14.40 Латарэя аўтографаў. Гульня для школьнікаў. 15.10 Вобраз. Літаратурны часопіс. 16.40 Асаблівы выпадак. Рэйд з міліцыяй па крымінагенных месцах Менска. 17.10 „НОВ & К" — топ-10. 18.10 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. КІМ (Віцебск) — „Дынама-93" (Менск). 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Рэклама. 20.50 „Следчы". Маст. фільм (Францыя). 22.05 НІКа. 22.20 Рок-айленд-шоў. Музычная праграма.

### НЯДЗЕЛЯ, 24 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік Рык Рэнер. 7.50 Справы вайсковыя. Служыць Айчыне салдат. 8.35 „За цудоўных дам!". Маст. фільм. 9.50 Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб. Прамая лінія. 10.50 Для школьнікаў. Пра шахматы і шахматыстаў. 11.20 Карагод. Музычная-забаўляльная праграма. 12.00 Тэлемарафон „Творчасць — шлях да сябе". Фестываль творчасці інвалідаў. 16.00 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. „Дынама" (Менск) — „Нёман" (Гродна). 2-гі тайм. 16.55 Слова. Абмяркоўваем праект Канстытуцыі. 17.15 Таямніца. Праграма для сям'і. 17.45 Запрашаем на вячоркі. „Сватанне дзяўчыны". Выконвае фальклорны калектыў г. Свіслач Гродзенскай вобласці. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.05 „Ранча". Маст. фільм (ЗША). 22.05 „Каскад". Кантакт. Інфармацыя. Рэклама. 22.20 Відзманявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё.

*ГУТАРКА Ў ДАРОЗЕ*

## ЯК ЖЫЦЬ?..

-- Вітай, Ігнат! Даўно не бачыліся. Бачу, пасівеў ты?

-- Дзень добры, Лёня. Што ж, старасць -- не радасць.

-- Ты -- стары? Ого! Не выглядаеш... Ды і сівы колер цяпер у модзе. Не адна паненка "паляцела б" на цябе.

-- Не гавары глупстваў. Жартаваць то можна, але, сапраўды, калі паляцела б на такога старога, то хіба на яго кашалёк!

-- Каму грошы шкодзяць? А калі патрэбныя, то хіба якраз маладым.

-- Грошы патрэбны гаспадарам. Хто змог пры "камуне" купіць, то мае, бо цяпер не купіць. Возьмеш крэдыт -- сам сабе пятлю налажыў на шыю. Цяжка.

-- Ды і зямлі пазбыцца цяжка! Праз мяжу ад маёй зямлі, канкрэтна, ёсць тры гектары лугу ў нестарога яшчэ гаспадара. Трымае ён карову, а сена для яе купляе. Думаю сабе, хай ён купіць мой луг, два гектары. А той мне кажа: "Не хачу я вашага лугу! Лепш аплаціцца мне маёй карове сена купіць, чым яго набываць, ехаць да натарыуса, падаткі плаціць усё большы, а машын няма, то і цяжка збіраць будзе тое сена".

-- Ну, цяпер то апошні дурань купляе зямлю. Трэба сёння гаспадару мець немалы капітал. У горадзе -- іначай: на работу, з работы, і ты вольны, а на вёсцы, калі б не падаў на нос, то рабіў бы цэлыя суткі.

-- Што там гаварыць, цяпер нідзе няма дабра. І ў горадзе таксама. Працы няма, цэны растуць... Гэта і ёсць дэмакратыя -- жыві, як хочаш. Рабі, што хочаш, каб пражыць.

**АЎРОРА**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Усе мае сны, на якія ты адказваў, спраўдзіліся. Ну, проста як бы ты ведаў маё становішча. Я ж нічога ў лістах не казала. А цяпер скажу. Жывем мы ўдваіх з мужам. Мы людзі старыя, мужу 70 гадоў, а мне — мала менш. Муж мой вельмі хворы. Пару тыдняў ужо ён ляжыць у шпіталі. Становішча яго цяжкое, слабая надзея на жыццё. Стуль у мяне такія цяжкасці, клопаты. А цяпер вось прысніўся яшчэ мне такі сон. Фура — драбіністая, невялікая. Нічога ў ёй не ляжыць. Ды тую фуру цягне не конь (каня ўвогуле няма), а мой муж. Едзе хутка. І кажа, каб я села на фуру. Я так і зрабіла. Ён павёз вельмі хутка. Я аж баялася. Урэшце прапала фура і мой муж. Я засталася адна.

І яшчэ прыснілася мне мая мама, якая ўжо даўно памерла. Быццам бы яна хворая. Ляжыць у ложку. Я кручуся па хаце і раптам бачу: няма мамы. Я яе шукаю ўсюды, у ложку таксама, але нідзе яе няма. Прапала мама з хаты.

**Кацярына**

Кацярына! Сны твае вельмі кепскія. Фурманка наогул абазначае вельмі хісткую, няпэўную справу. Калі б яшчэ быў запрэжаны конь, мог бы ён абазначаць перамогу. Аднак жа цягнуў яе твой муж, а пасля і зусім прапаў, а ты засталася адна. Ды таксама адна засталася ты ў другім сне. Была мама, ды прапала.

Усё гаворыць за тое, што твой муж можа не перанесці гэтай хваробы.




*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ЗАПЯКАНКА З ГАРБУЗА

Прадукты

*60-80 дэкаў ачышчанага гарбуза,*
*1/2 шклянкі цертай булкі,*
*10 дэкаў маргарыну ці масла,*
*шклянка смятанкі,*
*1 яйка,*
*соль і цукар.*

Гарбуз зварыць у пасоленай вадзе. Працадзіць, астудзіць, нарэзаць, як макарон. Падрыхтаваную гародніну класці ў посуд для запякання не надта тоўстымі пластамі, перасыпаючы кожны пласт булкай і перакладваючы стружкамі масла. Заліць страву смятанай, перамяшанай з яйкам і прыправамі. Запячы ў духоўцы.

**ГАСПАДЫНЯ**

### ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. Міраслаў, харвацкі пісьменнік, 3. роспісы сцен (мн. л.), 5. парадак, 7. пакаранне, 9. дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы, 10. спектакль, 11. група, 12. круглы камяк, 14. адзінства створанае з трох частак, 16. штучнае валакно, 17. нябеснае цела з касою.

**Вертыкальна:** 1. маленькі кусочак, 2. лягушка, 3. парадны мужчынскі сурдут, 4. сталіца Руанды, 6. аперацыя ўскрыцця косці, 8. паведамленне аб выкананні, 9. вялікі амерыканскі горад, 11. любіць гуляць, 13. возера ў Карэліі, 14. крэсла манарха, 15. сталіца Бангладэш.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 35 н-ра**: сарока, барана, абарог, пагода, пасуда, какаду, асілак, Сталін, спрынт, Расоны, космас, сабака.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Лукаш Пацэвіч і Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


 

